Янка Геніюш ➔3



# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714

Агароднічкі не здаюцца ➔ 9



http://niva.iig.pl

redakcja@niva.iig.pl

№ 08 (2909) Год LVII | Беласток, 19 лютага 2012 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ

# Чым хата багата ў беластоцкай „чацвёрцы"

*— Калі мая мама глядзела гэты спектакль, плакала найгаласней на ўсю залу, таму што гэта яна сама перажывала, — прызналася Анеля Скаўронская, маці двух дзяцей, сяброўка Згуртавання АБ-БА, якое ставіла спектакль „Ой даўно, даўно". Гэты спектакль і новая аднайменная кніга, прэзентацыя Беларускай хаты і сустрэча з прафесарам Яўгенам Міранавічам 10 і 11 лютага г.г. праводзіліся ў „Склепе з культурай" у Пачатковай школе № 4 у Беластоку па вуліцы Чанстахоўскай пад агульнай тэмай „Лёсы беларусаў Падляшша".*





Робэрт Пугацэвіч, Пётр і Анеля Скаўронскія



Прафесар Яўген Міранoвіч

„Склеп з культурай" змяшчаецца ў падвале школы (уваход ззаду). Старшыня Згуртавання ў карысць дзяцей і моладзі вывучаючых беларускую мову АБ-БА Барбара Пякарская: „Год таму атрымалі мы ад дырэктара Пачатковай школы № 4 Збігнева Клімовіча памяшканне ў падвале школы ў сваё карыстанне і зрабілі тут вялікі рамонт. Зрабілі тэатральную залу, і амаль сапраўдную вясковую беларускую хату".

— Мяне завуць Аліна Ваўранюк, я ў гэтай школе вучу дзяцей беларускай мове, — прадставілася апякун праекта шматлікім асобам, якія прыйшлі на мерапрыемства з горада, даведаўшыся пра яго з „Нівы" і радыё. — Сёння адчыняем наш „Склеп з культурай", новую, але старую беларускую хату. Праект „Склеп з культурай" — рэалізаваны толькі і выключна на грамадскіх пачатках, дзякуючы працы нашых бацькоў і іхняй фінансавай падтрымцы. Пасля паглядзіце спектакль „Ой даўно, даўно", звязаны з праектам „Падляшскія хронікі — беларускія гісторыі з Падляшша", а далей — чарговы дыскусійны клуб Згуртавання „АБ-БА". Можна паглядзець здымкі з нашай дзейнасці, з навучання беларускай мове — а пачалося ўсё гэта пятнаццаць гадоў таму; дзеці выбралі здымкі з летнікаў, экскурсій у Беларусь, з нашых мерапрыемстваў. Згуртаванне АБ-БА ўзнікла ў 2006 годзе, але мы — бацькі — яшчэ раней рабілі розныя рэчы супольна з нашымі дзяцьмі. Заглядайце таксама на наш сайт: **www.ab-ba.com.pl** — там ёсць польская і беларуская версіі з інфармацыяй пра тое, што мы робім. Спадзяюся, што ў гэтай зале, дзе ладзіць тэатральныя заняткі наша згуртаванне, можна будзе глядзець і іншыя спектаклі. 23 сакавіка — дыскусійны клуб з паэтам Віктарам Шведам і спектаклем паводле яго вершаў, 24 красавіка — спектакль „Цачацная крама".

Удзельніца праекта Лідка Пякарская: „Можа, калі цяпер пра гэта і не думаем, але калі-небудзь будзем задаволены зробленым. Нават бабуля ці так нехта, калі чытае кнігу, таксама падумае, што гэта вельмі добра, што мы малайцы, што менавіта мы змаглі расказаць гісторыю нашых сем'яў".

— Наш спектакль — частка праекта „Падляшскія хронікі", — сказала пасля спектакля Аліна Ваўранюк. — Рэалізавалі мы яго з 2008 года, дзякуючы фінансавай падтрымцы Маршалкоўскай управы Падляшскага ваяводства, а ў 2011 годзе, дзякуючы падтрымцы Міністэрства нацыянальнай адукацыі. Безумоўна, інспірацыяй да цэлага праекта былі „Сейненскія хронікі", а штуршком да працы канкрэтна „Тэрэмішчанскія расказы". Нашы планы дапамаглі нам здзейсніць Бажэна Шрэдэр, Данута Курань, Кася і Павел Вінярскія, бо мы раз у месяц ездзілі ў Тэрэміскі, у сядзібу Народнага ўніверсітэта імя Яна Юзафа Ліпскага. Заняткі праводзілі з намі, між іншым, Ілона Карпюк-Дамброўская, Эля Роек, Дар'юш Шада-Бажышкоўскі, Метак Гедройць, Дарафей Фіёнік, Алег Кабзар, Коля Ваўранюк, заўсёды ездзіла з моладдзю Бася Пякарская, на зімовых канікулах таксама Тамара Карнілюк. Ездзілі бусамі, на машынах бацькоў. Ганна Кандрацюк-Свярубская пісала нашу другую хроніку на старонках „Нівы". Юрка Асеннік зрабіў партрэты нашых акцёраў у кнізе. За працу над кнігай вельмі дзякую Мірку Здрайкоўскаму і Адаму Паўлоўскаму. А скажам яшчэ пра „Склеп з культурай". Год таму дырэктар Збігнеў Клімовіч запрапанаваў настаўнікам пакарыстацца памяшканнямі ў падвале школы. Я тады ўжо ведала, што гэта месца для нашага згуртавання, на заняткі для нашых вучняў. І нам захацелася пабудаваць беларускую хату. Спачатку маладыя хранікёры замяталі, чысцілі, вешалі, а пасля пачалося яшчэ больш. „Склеп з культурай" гэта грамадскі праект, які мы здзейснілі перш за ўсё дзякуючы фінансавай падтрымцы аднэй асобы — Мірaслава Пякарскага: дзякуем за яго падтрымку, экспанаты, ангажаванасць. Дапамаглі нам таксама Пётр Скаўронскі (ён м.інш. будаваў хату, чысціў дошкі, завешваў — быў ад пачатку і да канца), Юрка Пякарскі — чарадзей: замяніў каморку ў грымёрны пакой, Славамір Якімюк — выцягнуў нас з-за крат, асвятліў, Роберт Пугацэвіч — дапамог у хаце, даў свае экспанаты... Басі Пякарскай ды Тамары і Пятру Карнілюкам — падзяка за экспанаты і ўсё, што ў нашай хаце. Дзякую і Магдзе Карчэўскай (Магду я вучыла дзевяць гадоў, у гэтай школе і ў гімназіі): Магда праектавала хату, ставіла печку. Наша хата будзе разрастацца. „Каб здзейсніць мары, не трэба чараў, вам дапамогуць сябры" — напісала нам Марта Гусьнёўская.

Юлія Скаўронская, Дар'я Вапа, Ігар Карнілюк, Гаўрыла Скаўронскі, Кася Бялькевіч, Оля Мазурук, Дар'я Дажынка, Ніна Ваўранюк і Ліда Пякарская, за святлом — Юліта Тымашэвіч расказвалі гісторыі сваіх сем'яў, распавядалі пра лёс беларусаў.

Яўген Міранoвіч расказаў пра лёсы беларусаў Падляшша:

— Гэта лёсы людзей з вёскі. Чытаючы ўспаміны і тых, што былі ў бежанстве 1915 года, і тых, што жылі ў міжваенны перыяд, і пасля вайны. Яны расказваюць пра адно — пра вёску: як жылося, пра гаспадаркі, пра хаты... Калі прыходзіла нейкая палітычная бура, выцягвалі іх з хаты, пасылалі хлопцаў на фронт, у час акупацыі — пасылалі ў Нямеччыну — тады іхнія лёсы змяняліся. Некаторыя беларусы трапілі ў гарады. Тыя, хто нарадзіўся да вайны і ў першыя гады пасля вайны думаюць катэгорыямі вяскоўцаў...

У дыскусію ўключыліся ўдзельнікі сустрэчы розных пакаленняў, частка з якіх была на дыскусійным клубе Згуртавання АБ-БА першы раз. Відаць, «Склеп з культурай» стане важнай беларускай кропкай на карце Беластока.

9 770546 196000



# Беларускамоўнае бязмоўе

*Мы ўжо прывыклі да зняважальных адносін у Беларусі да беларускай мовы з боку беларускіх жа дзяржаўных структур. Прывыклі як да бародаўкі на носе, скулы на азадку ці мазаля на руцэ. Непрыемна, але жыць можна. Жыць і спадзявацца, што ўсё пройдзе само па сабе, або знойдзецца хутка недзе і некім сродак ад гэтай непрыемнасці, і тады надыдзе час ад яе пазбавіцца.*

*Мы прызвычаіліся да адсутнасці вышэйшага навучання па-беларуску, мяркуючы, што адукаваны чалавек і так родную мову мусіць ведаць, прывыклі да браку беларускіх класаў, спадзяваючыся, што маладое пакаленне не зрачэцца мовы, якая называецца матчынай, не звяртаем увагі на ганебны стан беларускамоўнай прэсы, бо не чытаем аніякай...*

*А вось некалькі жудасных апошніх паведамленняў гэтага, 2012 года, які толькі пачаўся. „У Віцебскай абласной бібліятэцы скасавалі аддзел беларускай літаратуры". Гэта не ўсё. „У Мінскім педагагічным універсітэце закрытыя адразу чатыры спецыяльнасці беларускай філалогіі". І гэта не ўсё. „У Віцебску філолагаў беларускай мовы таксама будзе менш...". Як хацелася б сказаць, што на гэты раз пакуль што ўсё. Але не! Не ўсё! І нават не пакуль што...*

*На беларускую мову пайшоў апошні і рашучы наступ. Былыя бітвы наша мова вытрымала. Як і наша нацыя. Ды і адстойваць сваё тады, у былыя часы, было не так дэпрэсіўна як зараз. Было цяжка, небяспечна, ахвярна... Але не дэпрэсіўна, бо прыходзілася біцца з ворагам знешнім, з чужаком. І як чужак нашае нішчыў, то гэта і ўспрымалася як агрэсія, і біцца з ім было не толькі справай гонару, але і абавязку.*

*Іншая справа, калі сваё знішчаюць свае. З нутры. Як хвароба. Тады справа значна больш сур'ёзная. Нібыта яна твая, тая хвароба, хоць табе і непатрэбная. Каб вылечыцца, трэба прымаць пэўныя лекі. Але лекі ў сваю чаргу нішчаць не толькі хваробу, але і здаровы арганізм, даводзячы яго да вельмі знясіленага стану.*

*Добра яшчэ, калі дыягназ пастаўлены правільна, калі лекар разумны папаўся. А як не тая дазіроўка, ці ўвогуле не той лек, тады і арганізм загубіць можна.*

*Хоць, калі быць справядлівымі да канца, то трэба сказаць, што беларуская дзяржава, вуснамі міністра культуры Рэспублікі Беларусь, на гэтыя жудасныя паведамленні пра канчатковае дабіванне беларускай мовы нясмела праляпатала, што не яна ў тым вінаватая. Нібыта не выконваецца нейкі там план па папулярызацыі беларускай мовы. Нібыта два гады таму прэм'ер-міністр і глава Адміністрацыі прэзідэнта Рэспублікі Беларусь зацвердзілі план мерапрыемстваў па папулярызацыі і пашырэнню сферы выкарыстання беларускай мовы ў жыцці грамадства. А вось мерапрыемствы гэтага плана не выконваюцца ў поўнай меры, асабліва на мясцовым узроўні.*

*Як быццам бы на вышэйшым узроўні, у кіраўніцтве і міністэрствах спадары міністры яго выконваюць свята і ўсе пагалоўна размаўляюць па-нашаму. Толькі хіба вельмі ціха, бо ніхто гэтага не чуе. Акрамя толькі аднаго тамашняга чыноўніка, самога міністра культуры, які так і не паведаміў, ні па-беларуску, ні на якой іншай мове, якія спагнанні панясуць тыя „мясцовыя структуры, якія не выканалі ў поўным аб'ёме плана мерапрыемстваў па папулярызацыі і пашырэнню сферы выкарыстання беларускай мовы ў жыцці грамадства", прынятага не абы-кім, а самым прэм'ер-міністрам і ажно самым главой Адміністрацыі прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.*

*Думаю, што гэта адзінае рашэнне ажно настолькі высокапастаўленых дзяржаўных чыноўнікаў, невыкананне якога ў Беларусі застанецца без пакарання.*

*Хоць, калі па шчырасці, караць то нікога і не трэба. Хапіла б і таго, каб міністэрства культуры проста давяло ўсім дзяржаўным служачым, а асабліва настаўнікам, выкладчыкам і культурным дзеячам, што каб лічыць сябе адукаваным і культурным чалавекам аднаго ведання беларускай мовы сапраўды замала. Але каб не мець аніякіх падстаў лічыць сябе адукаваным, інтэлігентным і культурным чалавекам, то аднаго толькі факта няведання роднай мовы цалкам дастаткова.*

**Віктар САЗОНАЎ**



# Мармелад для жавання

*Было гэта ў краме ў Нарве. Двух ягамосцяў, праклінаючы і размахваючы рукамі, лаялі дэмакратыю, урад і ліха ведае каго яшчэ. На канец адзін з іх гыркнуў: „Пры камуне ніхто не хадзіў галодны, не было бяздомных, не было бяды. А цяпер?". Падтакнула ягоным вывадам пару пакупнікоў. Дзве ці тры асобы востра супрацівіліся. І на гэтым цэлае здарэнне, маючае прыкметы публічнай дэбаты, вычарпалася. Дзядзькі купіўшы тое, што трэба, спакойна выйшлі. Я не сумняваюся, што калі б іх дыскусія адбывалася ў Беларусі, апынуліся б яны ў арышце. Якраз пару дзён таму суд у Мінску прыгаварыў беларускага праваабаронцу да чатырох дзён адміністрацыйнага пакарання. Ягонае злачынства палічылі „дробным хуліганствам". Заключалася яно ў тым, што няшчаснік „лаяўся і размахваў рукамі".*

*Беларусы, невядома калі, сталі грамадзянамі Лукашэнкаўскай Утопіі пад чырвона-зялёным сцягам з народным узорам. Яе сутнасцю з'яўляецца вера ў гаспадарчае перпетуум-мобіле — вечны рухавік, абапёрты на самадастатковасць. Аднак Утопія, як вечная машына — мае тое да сябе, што пакуль трываюць у нерухомасці задумы, яны вельмі прыгожыя. Ды хопіць іх перанесці са свету ідэй у рэальнасць, і раптам усё пачынае сыпацца — колцы, воські, пастаўкі, вытворцы патэнцыял... Не зважае на гэта фантаст Аляксандр Лукашэнка, хаця нават ягоны прэм'ер Міхаіл Мясніковіч астуджвае ідэалізм патрона асцярогай, што прыбыткаў бюджэту дзяржавы ды сродкаў прадпрыемстваў хапае ледзь на гарантаванне простага ўзнаўлення.*

*Простае ўзнаўленне агулам заключаецца ў тым, што, напрыклад, фабрыка смятаны ў змозе накупіць малака ў такой колькасці, якая будзе дастатковай на поўнае пакрыццё кароткатэрміновых выдаткаў на яе выраб. Быў бы гэта прыклад эканамічнага вечнага рухавіка, калі б не было аднаго „але". Але са зносам фабрычнага абсталявання павялічваюцца кошты вырабу. А паколькі ўсе фабрыкі смятаны ва Утопіі ў той жа самай сітуацыі, не дапускаецца свабодная цэнавая гульня, значыць, павелічэнне эфектыўнай вытворчасці, якая вымушае наватарства, сучаснае кіраванне, інвеставанне ў новыя тэхналогіі і г.д. А тое спалучаецца з крэдытамі, якіх беларускія банкі не ў змозе прадставіць. У паслядоўнасці фабрыка смятаны, якая ва Утопіі не мае права абанкруціцца, вырабляе штораз менш ды штораз горш. Прыгадваецца мне ў гэтым месцы перыяд ваеннага становішча ў Польшчы, калі „простае ўзнаўленне" амаль з гадзіны на гадзіну спіхвала краіну ў гаспадарчую бездань, у якой у неўяўляльнай цісканіне таўкліся найбяднейшыя афрыканскія і азіяцкія краіны.*

*Аўтарскай задумай прэзідэнта Лукашэнкі на эканамічны правал краіны з'яўляецца ажыццяўленне новай эканамічнай палітыкі краіны. 5 студзеня 2012 г. (гэта гістарычная дата) беларускі ўрад зацвердзіў спісак тавараў айчыннай вытворчасці, якія да гэтай пары былі імпартаваныя. За іх выраб з даступных сыравін ды паводле невядомых тэхналогій і на канец пастаўку іх у крамы ў невядома які спосаб маюць адказваць розныя дзяржаўныя ўстановы. І так сталічныя чыноўнікі з вялікім запалам зоймуцца пілатажам вырабу з айчынных сыравін м.інш. пракладак і мыла. На фронт пялюшак кінулі чыноўнікаў Магілёўскай вобласці. Міністэрства інфармацыі мае адказваць за пастаўку на рынак м.інш. цацачных калясак у колькасці не меншай чым 5 тысяч штук, а Міністэрства прамысловасці — „аўтаматычных парасонаў для жынчын, мужчын і моладзі" ды „фрэзерных грабляў". Таму што тыя граблі неабходныя для эканамічнага развіцця Беларусі. Таксама і каляскі для лялек. І той „мармелад для жавання", якога выраб абавязкова навяжуць дзяржаўнаму прадуктоваму канцэрну „Белхарчпрам". Як вядома, выраб мармеладу для жавання мае быць формай змагання з дэфіцытам у замежным гандлі. Неаднаразова гаварыў пра гэта прэзідэнт Лукашэнка. Калі спыталіся ў яго, што спажывае, адказаў, што „толькі беларускае, замежнае не магу ўзяць у рот". Можна спытацца, ці беларусы паспеюць пераварыць лукашэнкаўскі мармелад-жавачку пакуль усвядомяць сабе, што гаспадарка ў іхняй краіне ўваходзіць у фазу перадавога анарэктызму. Проста, памаленьку замораца голадам на смерць.*

**Міраслаў ГРЫКА**

**Вачыма еўрапейца**

# Будаванне ўражлівасці



*Мінула ўжо больш за паўгода ад здарэнняў расісцкага характару, якія адбыліся на Падляшшы. Памятаеце, ранняй вясною і летам мінулага года дайшло (згодна з паліцыйнымі статыстыкамі) да васьмі такіх здарэнняў, між іншым да намалявання фашысцкіх і расісцкіх лозунгаў на помніку закатаваным жыдоўскім ахвярам у Ядвабным і на арлянскай сінагозе, замалявання літоўскіх назваў мясцовасцей на 28 таблі- цах у гміне Пунск, падпалу Цэнтра мусульманскай культуры ў Беластоку. Было аб гэтым гучна ва ўсёй краіне, а ў гэтай справе выказваліся найважнейшыя чыноўнікі і палітыкі рэгіёна і дзяржавы. У Падляшскім ваяводстве была нават створана спецыяльная група па справах паляпшэння бяспекі нацыянальных і рэлігійных меншасцей. Незалежна ад такога зацікаўлення праблемай, паліцыі і пракуратуры не ўдалося дасюль выкрыць віноўнікаў гэтых — асмелюся гэта сказаць — невыпадковых і з поўным веданнем зробленых актаў. Падобна прыціхла справа контрманіфестацыі ў Беластоку, у час якой група пару дзесяткаў маладых людзей выкрыквала лозунгі тыпу „Nie przeprosimy za Jedwabne" (такі лозунг з'явіўся раней на помніку ў Ядвабным), а на марш якой беластоцкія ўлады не далі сваёй згоды.*

*Аб гэтых усіх здарэннях прыгадаў сабе ў апошні час падляшскі дэпутат Роберт Тышкевіч, віцэ-старшыня сеймавай камісіі замежных спраў. Па яго ініцыятыве быў аб'яўлены конкурс „Падляшская мазаіка. У пошуках супольнасці пагранічча", накіраваны вучням. Ганаровы патранат над ім узяла ўпаўнаважаная ўрада па справах роўнай трактоўкі Агнешка Казлоўская-Раевіч, а суарганізатарамі з'яўляюцца Падляшская кураторыя асветы і Маршалкоўская ўправа. У час прэс-канферэнцыі ў Беластоку ўпаўнаважаная гаварыла аб ідэі конкурсу:*

*— Паказвае ён перш за ўсё як шляхам працы з нуля будаваць атмасферу і стаўленне талерантнасці і адабрэння да іншага чалавека. Шматкультурнасць з'яўляецца каштоўнасцю, якая будуе багацце нашай краіны.*

*Што важнае, Агнешка Казлоўская-Раевіч пераконвала журналістаў, што трэба высветліць, чаму ў справе васьмі інцыдэнтаў следства працягваецца так доўга. На яе думку, каб супрацьдзейнічаць падобным здарэнням, неабходна дзейнічаць на многіх узроўнях, не толькі шляхам арганізацыі конкурсаў, як гэты аб'яўлены ў Беластоку, але і м.інш. абучэннеў суддзяў, каб „тэрмінова і паспяхова рэагавалі на інцыдэнты правапарушэнняў", бо да гэтага часу да такога тыпу спраў падыходзяць лішне лагодна, кансультацыя сведкаў-экспертаў аб іх неадназначная, а гэта вынік — як назвала ўпаўнаважаная — грамадскай свядомасці:*

*— Пакуль не збудуем большай грамадскай уражлівасці ў нашым грамадстве, датуль цяжка будзе нам справіцца, між іншым з-за гэтай прычыны, з такімі здарэннямі.*

*Вернемся да конкурсу. Накіраваны ён вучням усіх тыпаў школ і навучальных установаў Падляшскага ваяводства. Працы можна заяўляць у форме фільма, відэакліпа, спектакля, трохмернай мастацкай працы, фотарэпартажу і тэксту (рэпартаж, інтэрв'ю, апавяданне, верш). Працы перад адпраўкай мусяць быць прадстаўлены ў мясцовым асяроддзі (мінімум у школе), а плануецца іх рэкамендацыя ў шырэйшай публічнай прасторы (пасёлак, горад, вёска, інтэрнэт і да г.п.). Конкурс працягваецца да канца мая 2012 г., а працы трэба перасылаць да 10 чэрвеня на адрас беластоцкага VI ліцэя імя караля Зыгмунта Аўгуста. Прадбачаны каштоўныя індывідуальныя і калектыўныя ўзнагароды, а школа, вучні якой адрэкамендуюцца найлепш, атрымае камп'ютарную майстэрню.*

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

Родам з Беласточчыны

Сяргей ЧЫГРЫН

# Беларус непадробнай шчырасці

*25 лютага спаўняецца 110 гадоў з дня нараджэння **Янкі Геніюша** — беларускага доктара, бібліяфіла, мужа Ларысы Геніюш.*



Янка Геніюш, сын Юрка, Ларыса Геніюш

Васіль Быкаў у сваёй кнізе „Доўгая дарога дадому” пра Янку Геніюша сказаў, што „ўвогуле ён мне падабаўся сваёй непадробнай беларускай шчырасцю”. А калі Янка Геніюш заязджаў да Васіля Быкава ў Гародню, то яны вялі доўгія гутаркі пра ўсё на свеце, але найперш пра Беларусь і лёс беларусаў. З іх вялікі пісьменнік „пазнаў нямала новага і нават неспадзяванага з жыцця на акупацыйнай тэрыторыі, пад немцамі, а таксама ў Празе. Факты, пра якія распавядаў Геніюш, не надта ўлагоджваліся з тымі, што мы засвоілі з савецкай прапаганды...”. Так згадваў Васіль Быкаў Янку Геніюша.

Па характары Іван Пятровіч быў розны — то спакойны, то занадта рэзкі і гарачы ў выказваннях, то чулліва-лагодны, то вясёлы. Але найперш да канца сваіх дзён ён быў і застаўся шчырым беларусам, патрыётам сваёй Бацькаўшчыны. Ды іншым Янка Геніюш быць не мог. Тым больш, што побач з ім, нягледзячы на ўсе пакуты, цяжкія і шматгадовыя ростані, была слынная паэтка Беларусі Ларыса Геніюш. Яны разам дзялілі свае гора і радасці, здзекі і хвалявanni, трывогу і неспакой. На надмагільным помнічку ў Зэльве, які пры жыцці ставіла яму сама Ларыса Антонаўна (цяпер ім дваім стаіць помнік на Зэльвенскіх гарадскіх могілках), былі выбіты такія радкі:

*По сонца асветы ўзлятаў, нібы птах,*
*З палоскі сялянскае, вузкае.*
*Адзін толькі ведаў*
*у жыцці сваім шлях*
*Пачэсны, цяжкі, беларускі.*

А калі да Ларысы Геніюш прыязджалі сябры і яны прыходзілі на зэльвенскія могілкі да магілы Янкі Геніюша, Ларыса Антонаўна казала: „Вось тут спіць мой Янка, на мяккай пярынцы. Каторы гадочак спіць Яначка, адбегаў сваё, адгараваў...”.

Янка Геніюш нарадзіўся 24 лютага 1902 года ў Крынках на Беласточчыне. Дарэчы, у Крынках пачынаецца і ўвесь род Ларысы Геніюш, якая аб гэтым успамінае ў артыкуле „Крынкі” („Маладосць”, 1997, № 1): „Казаў мой дзед Павел, што некалі прыйшлі туды ў пушчу два браты Мікалай і Міхал, якія і заснавалі Крынкі. Ад Мікалая пайшлі Міклашэвічы, а ад Міхала — Міхайлоўскія — два старыя, адвечныя роды ў Крынках”. І калі Ларыса Антонаўна Міклашэвіч выйшла замуж за Янку Геніюша, то запыталася жартам у яго: „А дзе ж ты нарадзіўся?” — „Гдзе? У Крынках!” — адказаў Янка. І сапраўды... дзе ж яшчэ можна нарадзіцца на Беласточчыне, як не ў славутых Крынках.

З Крынак шлях ляжаў у Прагу, куды Янка Геніюш прыехаў вучыцца. Ён паступіў у Карлаўскі універсітэт, а пасля яго заканчэння атрымаў медыцынскую адукацыю, стаў урачом-венеролагам. У тым жа 1935 годзе ў сям'і Геніюшаў нарадзіўся сын Юрка. Пабыўшы два гады дома, Ларыса з сынам пераязджаюць у Прагу да Янкі.

Жыццё ў Празе было вельмі цікавым і разнастайным. Тут жылі дзеячы Беларускай Народнай Рэспублікі, беларускія спевакі, кампазітары, мастакі, пісьменнікі. З імі ўсімі быў знаёмы Янка Геніюш, з многімі шчыра сябраваў. А яшчэ ён быў актыўным сябрам пражскага камітэта Беларускай народнай самапомачы.



Падчас акупацыі Прагі нямецкімі войскамі, кіраўнік Беларускай народнай самапомачы (БНС) Іван Ермачэнка адправіў Янку Геніюша ў Беларусь, у прыватнасці, у Слонім на лекарскую працу. Пры жыцці доктар філалагічных навук прафесар Алег Лойка расказаў мне адзін цікавы эпізод з жыцця Янкі Геніюша ў акупаваным немцамі Слоніме: „Падчас акупацыі ў 1943-1944 гадах мой бацька быў намеснікам слонімскага гебітарцта (слонімскага райздрава), а гебіткамісарарцтам быў не хто іншы, як дзядзька Янка, спадар Іван Пятровіч Геніюш. Толькі па рэцэптах за подпісам майго бацькі выдаваліся ў слонімскай аптэцы лякарствы. Тыя лекі ішлі да партызанаў, і спадар Геніюш не мог таго не ведаць. А яшчэ Іван Пятровіч стаў героем у вачах майго бацькі, калі ён не ўскінуў руку дзеля прывітання слонімскага гебіткамісара Герхарда Эрэна, п'ючы піва пры рэстараннай стойцы, калі ў рэстаран зайшоў Эрэн. Эрэн зрабіў на тое заўвагу, на якую дзядзька Янка зрэагаваў імгненна: „А хто тут гаспадар, мы ці вы?!”. Праз некалькі дзён слонімскі арцтгебіт узначальваў ужо не Геніюш: Эрэн прагнаў яго ў Баранавічы. Іншай меры пакарання Эрэн не дабіўся, бо за Геніюшам стаяла слава тых, хто падпісаў з Прагі ліст самому Гітлеру...”. Што датычыць ліста Гітлеру, дык пра гэта добра расказала Ларыса Геніюш у сваёй „Споведзі” і ўсе тыя махінацыі, якія вытвараў у акупацыйнай Празе Іван Ермачэнка. Пра рэпліку Янкі Геніюша ў адрас гебіткамісара Эрэна, сказанае Алегам Лойкам, аспрэчыў Барыс Данілюк (1923-2011), які падчас акупацыі жыў у Слоніме. У адным з пісем пры жыцці да аўтара гэтых радкоў спадар Барыс пісаў: „У Слоніме пры немцах не было ніякага рэстарана, апрача харчоўні Самапомачы. У ёй піва не прадавалі, ды і ў такую харчоўню гебіткамісар ніколі не пайшоў бы. Піва, магчыма, было ў „Soldatenheim”, але туды для „Einheimische”, у тым ліку і для доктара Геніюша, не было доступу”. Хто з іх меў рацыю — цяжка сказаць, але ж ад смелага і рызыкоўнага Янкі Геніюша, які моцна любіў Беларусь, можна было чакаць і такой рэплікі ў адрас чужынцаў.

Пасля вайны ў 1948 годзе Янку і Ларысу Геніюшаў незаконна пазбавілі чэшскага грамадзянства і з Прагі іх вывезлі ў Беларусь. А праз год яны былі асуджаны Вярхоўным судом Беларусі на 25 гадоў няволі.

У 1956 годзе Геніюшы былі датэрмінова вызвалены і вярнуліся ў Зэльву, дзе пасяліліся ў хаце бацькоў Янкі па вуліцы Савецкай, 7а. Сам Іван Пятровіч уладкаваўся працаваць доктарам у мясцовай зэльвенскай бальніцы. Пісьменнік Уладзімір Арлоў прыгадвае: „Янка Геніюш быў добрым лекарам, што маглі б засведчыць і ягоныя чэшскія пацыенты, і хворыя Зэльвенскай раённай бальніцы, начальства якой прыніжала былога гулагаўскага вязня, не прызнаючы замежны Янкаў дыплом...”.



Доктар Геніюш вядзе прыём хворых у Зэльве

Янка Геніюш вельмі любіў беларускія кнігі. Ён іх купляў у крамах, прасіў сяброў, каб высылалі яму новыя беларускія выданні з Мінска, з абласных гарадоў. Некалі ён першы даў сваёй нарачонай Ларысе пачытаць вершы Янкі Купалы, расказваў ёй пра гісторыю Беларусі, пра вялікіх людзей Бацькаўшчыны. Ці не Іван Пятровіч адкрыў жонцы, будучай паэтцы Ларысе Геніюш, свет на беларускасць, натхніў на паэзію?!. Бо ведаў ён шмат. Пісьменнік Уладзімір Ягоўдзік нядаўна прыгадаў, як ён быў яшчэ школьнікам, а Іван Пятровіч натхніў яго падпісацца на Беларускую савецкую энцыклапедыю. „Іван Пятровіч фанатычна любіў беларускія кнігі: купляў усе, якія выдаваліся, нават па некалькі паасобнікаў, купляў тыя, якія трэба было купляць і тыя, якія яму былі нават не патрэбныя”, — успамінае Уладзімір Ягоўдзік.

Калі не стала Янкі і Ларысы Геніюшаў, я пабываў у іх доме з настаўнікам з Дзярэчына Пятром Марціноўскім. Тады якраз з Беластока Валянціна Геніюш — нявестка Геніюшаў, прыехала, каб вырашыць пытанне з домам Геніюшаў у Зэльве. „Усю бібліятэку Янкі і Ларысы Геніюшаў абяцала купіць Нацыянальная бібліятэка Беларусі, але ў апошні момант адміністрацыя бібліятэкі адказалася ад кніг, — уздыхнула Валянціна. — Бярэце, хлопчыкі, штосьці небудзь сабе з гэтых выданняў...”.

Кніг у хаце Геніюшаў сапраўды было шмат: у адным пакойчыку яны стаялі на паліцах ад падлогі да столі. Вялікая гара выданняў па медыцыне ляжала проста на падлозе. Мы ад убачанага проста разгубіліся. У гэтым доме можна было зрабіць музей Геніюшаў, куды прыязджалі б штогод тысячы турыстаў, бо Зэльву сёння ведаюць толькі таму, што там жылі і пахаваны Янка і Ларыса Геніюшы. Але, на вялікі жаль, ніякага музея там няма, нават на 100-годдзе паэткі не дазволілі мясцовыя ўлады ўстанавіць на доме мемарыяльную шыльду.

Уладзімір Арлоў у сваёй кнізе „Імёны свабоды” згадвае: „Калі Іван Пятровіч цяжка захварэў, „дабрадзеі” пусцілі чутку, нібыта ён ужо сканаў, і ў дом Геніюшаў пачалі прыходзіць людзі з жалобнымі вянкамі. Ён памёр на жончыных руках. Ларыса Антонаўна сама яго мыла і апранала. „Пахавалі са слязьмі, ціха, без палкіх прамоў. Не ўсё было добра, аднак нельга аб гэтым...”.

Пры жыцці ў іх хаце часта гасцілі беларускія пісьменнікі, мастакі, кампазітары, палітыкі. Па-рознаму яны адносіліся найперш да Івана Пятровіча, які пасля сталінскіх лагераў страшна ненавідзеў камуністаў і савецкую ўладу, а яшчэ мацней любіў Беларусь і ўсё жыццё марыў аб яе незалежнасці ад Расіі. Пакуль мара Янкі Геніюша не споўнілася...

Гайнаўка

## На беларускую ноту

29 студзеня г.г. у Гайнаўскім доме культуры адбыўся агляд „Беларуская песня-2012”. Удзельнічала ў ім 12 салістаў, 11 калектываў, 3 хары, 1 дуэт, 1 трыо і 2 квартэты з Гайнаўскага павета.

**У катэгорыі сучасная песня** першае месца заняла салістка Дар'я Маркевіч з Гайнаўкі, другое раўнапраўнае месца — салісткі Адрыяна Прусіноўская, Рэната Тушынская і Марыёля Монах з Гайнаўкі ды трэцяе раўнапраўнае месца — Паўліна Юрчук, Марта Адамюк і Марлена Беглюк з Гайнаўкі. У гэтай катэгорыі песні найлепш адрэкамендаваліся калектывы Студыя эстраднай песні з Гайнаўкі і вакальна-інструментальны „Арт-Пронар” з Нарвы.

У катэгорыі **фальклорная апрацаваная песня** сярод вакальных калектываў першае раўнапраўнае месца занялі „Чыжавяне” з Чыжоў і жаночая група „Рэха пушчы” з Гайнаўкі, другое раўнапраўнае месца — калектыў з Махнатага і жаночая група з Чыжоў ды трэцяе месца — калектыў „Ручаёк” з Белавежы; у групе эстрадных калектываў першынство заваявала „Знічка” з Белліцэя ў Гайнаўцы, сярод хароў — „Рэха пушчы” з Гайнаўкі (першае месца), „Гармонь” з Ласінкі (другое месца) і „Цаглінкі” са Старога Ляўкова (трэцяе месца).

У катэгорыі **аўтэнтычная фальклорная песня** сярод салістаў другое месца заняла Кацярына Ціханюк са Збуча і трэцяе раўнапраўнае — Вольга Ахрымюк з Чыжоў і Марыя Мароз з Махнатага; сярод квартэтаў другое месца заняў квартэт „Каліна” з Дашоў і трэцяе — квартэт „Збучанак” са Збуча, сярод вакальных калектываў другое месца занялі „Падляшанкі” з Гарадзіска і трэцяе — „Нараўчанкі” з Нараўкі. **(яц)**

## Прыём заявак на арганізацыю „Басовішча-2012” падоўжаны

90 тысяч злотых Міністэрства адміністрацыі і лічбавізацыі Польшчы прызначыла на арганізацыю культавага ўжо рок-фестывалю „Басовішча-2012”. Заяўкі ад няўрадавых арганізацый на правядзенне мерапрыемства можна падаваць цягам бліжэйшых 30 дзён.

„Фестываль „Басовішча” спрычыніцца да падтрымкі і развіцця тоеснасці беларускай нацыянальнай меншасці, асабліва сярод прадстаўнікоў маладога пакалення,” — чытаем у адмысловым камюніке міністэрства.

Раней заяўку на правядзенне „Басовішча” на 150 тысяч злотых падало Беларускае аб'яднанне студэнтаў. Аднак міністэрства адмовіла БАСу ў сувязі з праблемамі, якія ўзніклі пры разліках мінулагодніх мерапрыемстваў.

Новы конкурс, абвешчаны міністэрствам, гэта шанц, каб мерапрыемства, якое мае болей за 20-гадовую традыцыю на Беласточчыне, увогуле адбылося. Падрабязнасці конкурсу даступныя на сайце Міністэрства адміністрацыі і лічбавізацыі: **http://mac.bip.gov.pl/articles/index/30**

**Валянціна Лаеўская, Радыё Рацыя**



*На адрэзку ваяводскай дарогі ад забудаванай часткі Гайнаўкі (у напрамку Кляшчэляў) да выдзеленай тэрыторыі пад праваслаўны і каталіцкі могільнікі прадбачваецца пашырыць праязную частку дарогі яшчэ больш, чым у іншых месцах, каб было месца для пахавальных шэсцяў*

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

# Дарожныя інвестыцыі на Гайнаўшчыне

**Гайнаўка — адзін з нешматлікіх павятовых гарадоў у нашай краіне, да якога не даходзіць ніводная краёвая дарога. Яшчэ пакойны епіскап Міран заклікаў мясцовых самаўрадаўцаў хадайнічаць, каб нейкую з ваяводскіх дарог, што даходзіць у горад, перайменаваць на краёвую. Тады нават у снежную зіму можна было б даехаць у цэнтр Гайнаўскага павета па расчышчаным асфальце, бо такую паверхню трэба захоўваць на краёвых дарогах. У час мінулых зім вадзіцелям прыходзілася дабірацца ў Гайнаўку па снежных калдобінах, якія пакрывалі ваяводскія дарогі, што з розных бакоў даходзяць у горад. Хаця так і не ўдалося ўстанавіць краёвую дарогу, якая даходзіла б у цэнтр Гайнаўскага павета, то ў гэтым годзе з ачысткай ваяводскіх дарог было намнога лепш, чым у мінулых гадах. Да гэтай пары дарогі рэгулярна расчышчваюцца, пасыпваюцца соллю.**

Мясцовых жыхароў найбольш радуюць дарожныя інвестыцыі. У 2011 годзе грунтоўна мадэрнізавалася ваяводская дарога з Дубін у Звадзецкае. Сёлета, 24 студзеня, стала вядомым, што за еўрасаюзныя сродкі памерам у звыш 70 мільёнаў злотых плануецца ў хуткім часе мадэрнізацыя ваяводскай дарогі з Гайнаўкі ў Елянку. Раней была адрамантавана ваяводская дарога з Елянкі ў Кляшчэлі і краёвая дарога з Кляшчэляў да пагранперахода ў Полаўцах. Калі будзе паспяхова рэалізавацца новая задума, жыхары Гайнаўшчыны будуць маглі дабірацца па новых дарогах да пагранперахода ў Полаўцах, які неўзабаве мае атрымаць статус міжнароднага. Дарогай з Гайнаўкі ў Кляшчэлі і далей вядзе ў напрамку Варшавы і гарадоў цэнтральнай ды паўднёвай Польшчы. Дарогай з Гайнаўкі праз Дубіны і Навасады ў Заблудаў жыхары Гайнаўкі і наваколля найчасцей ездзяць у Беласток. Таму ваяводскія дарожныя інвестыцыі вельмі патрэбныя Гайнаўшчыне. Да гэтага трэба яшчэ дадаць планаваную мадэрнізацыю Семяноўскага чыгуначнага пагранперахода.

Управа Падляшскага сейміка 24 студзеня вырашыла, што 72,7 мільёна злотых у рамках Рэгіянальнай аператыўнай праграмы Падляшскага ваяводства будзе прызначаных на грунтоўную мадэрнізацыю ваяводскай дарогі № 685 Заблудаў — Кляшчэлі на адрэзку з Гайнаўкі ў Елянку.

— Цалкавіты кошт інвестыцыі (на дарозе Гайнаўка — Елянка — А. М.) складзе суму 73,5 мільёна злотых, — удакладніла Агнешка Тышкевіч з Маршалкоўскай управы Падляшскага ваяводства. — Грошы, якія Падляшская ўправа ваяводскіх дарог мае намер выкарыстаць на мадэрнізацыю дарогі з Гайнаўкі ў напрамку Кляшчэляў, раней мелі быць выдаткаваны на будову аэрадрома каля Беластока, на што першапачаткова было запланаваных 355 мільёнаў злотых. Аднак стала вядомым, што з-за спазненняў у падрыхтоўцы да гэтай авіяцыйнай інвестыцыі ўправа ваяводства не будзе ў змозе выкарыстаць сродкі запланаваныя першапачаткова на будову ўзлётнай паласы. Прадугледжваецца, што паміж Гайнаўкай і Елянкай на дарозе даўжынёй у 21,6 кіламетра будзе праведзена грунтоўная мадэрнізацыя, пашырана праязная частка дарогі да 7 метраў, маюць быць перабудаваны таксама крутыя павароты і нівеліраваны ўзгоркі. Прадбачваецца будова новых мастоў, а ўздоўж дарогі — пракладка веласіпедных сцежак і тратуараў, з думкай таксама аб турыстах. Зараз беластоцкае прадпрыемства рыхтуе праектную дакументацыю для гэтай інвестыцыі.

— Пасля падрыхтоўкі дакументацыі і атрымання ўсялякіх фармальна-юрыдычных дазволаў на рэалізацыю дарожнай інвестыцыі будзе абвешчаны аўкцыён на выкананне разбудовы дарогі Гайнаўка — Елянка, — патлумачыў дырэктар Падляшскай управы ваяводскіх дарог у Беластоку Юзаф Суліма.

У мінулым годзе на Гайнаўшчыне рамантаваліся ваяводскія дарогі на адрэзках з Дубін у Навасады (№ 685) і з Навасадаў у Звадзецкае (№ 687). Дырэктар Юзаф Суліма ўдакладніў, што цалкавіты кошт згаданых дарожных работ, інвестарскага нагляду і лабараторных даследаванняў склаў суму 24,6 мільёна злотых. На згаданых адрэзках дарог, даўжынёй у 6,22 кіламетра, шырыня празной часткі таксама павялічана да 7 метраў. У Дубінах, Навасадах і Звадзецкім маюць быць збудаваныя дарожная каналізацыя, тратуары і веласіпедныя сцежкі. Незавершаная інвестыцыя спрычыняецца да пэўных транспартных складанасцей. Калі пачнецца грунтоўная мадэрнізацыя дарогі Гайнаўка — Елянка, таксама напэўна паявяцца складанасці ў перамяшчэнні транспартных сродкаў, але ж трэба крыху пацярпець, каб пасля можна было катацца па шыкарнай дарозе. У шматгадовым фінансавым прагнозе для Падляшскага ваяводства на 2011-2020 гады запісаны план мадэрнізацыі і разбудовы ваяводскай дарогі № 687 на адрэзку са Звадзецкага ў Юшкаў Груд даўжынёй у 28,3 кіламетра. Калі б удалося прыдбаць сродкі на гэтую інвестыцыю, каштавала б яна паводле плана 99,5 мільёна злотых.

„Усе прылепліваюцца да гэтай адзінай вартаснай Белавежскай пушчы. Трэба ўсё рабіць для пушчы. А калі будзе адрамантаваная дарога ў Белавежу?” — напісаў на адным з інтэрнэт-форумаў жыхар Гайнаўшчыны, незадаволены размеркаваннем ваяводскіх дарожных інвестыцый. Аднак у бліжэйшы час не прадугледжваецца больш грунтоўная перабудова ваяводскай дарогі № 689 з Бельска-Падляшскага праз Гайнаўку ў Белавежу. Хаця ў першых гадах XXI стагоддзя прадбачвалася мадэрнізацыя дарогі з Гайнаўкі ў Белавежу, то пратэсты экалагічных арганізацый, якія баяліся знішчэння прыдарожнай паласы ў пушчы, спынілі падрыхтоўку гэтай інвестыцыі. Дырэктар Юзаф Суліма дадаў таксама, што ў бліжэйшых гадах не прадбачваецца рамонту скрыжавання дарогі № 689 (Бельск-Падляшскі — Гайнаўка) з дарогай у Новае Беразова, на якім у апошніх гадах здараліся дарожныя аварыі са смяротным вынікам. Загінуў там, між іншым, айцец Тамаш Ляўчук, якому не ўдалося абмінуць пастаўлены на скрыжаванні ўнітаз.

Вялікія інвестыцыі рыхтуюцца таксама на чыгуначным пагранпераходзе побач Семяноўкі, праз які перапраўляецца сыравіна, у тым ліку драўніна, сельскагаспадарчыя прадукты, а таксама прамысловыя перароблены прадукты з Усходу ў Польшчу і далей у заходнія краіны. Разбудова і мадэрнізацыя пагранперахода маюць адбывацца ў рамках праекта „Уклад у паляпшэнне прапускной здольнасці і кантролю на чыгуначным пагранпераходзе ў Семяноўцы” за сродкі Швейцарска-Польскай праграмы супрацоўніцтва (у 85%) і дзяржаўнага бюджэту (у 15%). Агульны кошт мадэрнізацыі пагранперахода складзе 17,4 мільёна злотых. Прадугледжваецца, што будаўнічыя працы на пагранпераходзе побач Семяноўкі, на які выдзелена ўжо 3,5 гектара зямлі, распачнуцца ў маі гэтага года, а іх заканчэнне запланавана на лістапад 2013 года. Павінны паявіцца тут месцы працы для мясцовага насельніцтва, так як і ў разбудоўваным зараз за дзесяткі мільёнаў злотых пагранпераходзе ў Полаўцах. Аднак дарожны і чыгуначны транспарт можа мець і адмоўнае ўздзеянне на жыццё насельніцтва Бельскага, Гайнаўскага і Сямятыцкага паветаў, напрыклад, у выпадку перавозу небяспечных для здароўя і жыцця людзей рэчываў, ці забруджання асяроддзя.

Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН

# З Гродзеншчынай у сэрцы

**По ініцыятыве вядомага гродзенскага гісторыка доктара Віталя Карнелюка, у канцы студзеня 2012 года дуэт „Заранiца" з'ездзіў у Гродзенскую гімназію № 1 імя акадэміка Я. Ф. Карскага, каб прыняць актыўны ўдзел у штогоду арганізаваных творчых „Дэкадах Я. Ф. Карскага". У гонар славутага навукоўца, заснавальніка беларускага мовазнаўства, ладзяцца тут сустрэчы з людзьмі, звязанымі з беларускай культурай. Адбываюцца, між іншым, літаратурна-музычныя вечарыны, экскурсіі, інтэлектуальныя віктарыны. Кожны год у рамках дэкады ўрачыста ўзнагароджваюць лепшых адзінаццацікласнікаў спецыяльнай стыпендыяй, якая сёлета была надзвычай высокая, што, вядома, выклікала вялікую радасць сярод узнагароджаных.**



З настаўнікамі гімназіі

Нягледзячы на сапраўды сібірскае надвор'е, спадар Віталь паклапаціўся, каб сустрэць нас на гродзенскім чыгуначным вакзале. На яго радым сустрэчы твары можна было дашукацца першай ступені абмаражэння; што горш, едучы сюды яго машына забаставала на самай сярэдзіне вялікагарадской шашы, таму прыйшлося няшчаснаму перасесціся ў таксі. На гэтым самым таксі мы ўсе адправіліся спяшра ў выгадны гатэль, а пасля хутка ў гімназію. Пасля кароткага прывітання з гаспадарамі школы, спадар Віталь завёў нас у самае ганаровае месца, а менавіта адкрыў тайны школьнага музея Яўхіма Фёдаравіча Карскага.

На месцы чакалі нас ужо дзве дзяжурныя гімназісткі. Аказваецца, вучні не толькі ўдзельнічаюць у навуковых экспедыцыях, збіраючы новыя інфармацыі і памяткі для музея, але таксама выконваюць функцыю музейных гідаў. Як сказаў нам спадар Карнялюк, гэтая ўстанова паявілася ў гімназіі дзякуючы своечасоваму зацікаўленню настаўнікаў і вучняў роднай беларускай культурай і гісторыяй.

Усё пачалося ў 1992 годзе. Тады гімназію наведаў педагог, вельмі цікавы паэт, музыкант і краязнаўца Апанас Цыхун, стваральнік музея Я. Ф. Карскага ў вёсцы Лаша Гродзенскага раёна (едучы ў бок Індуры, па-суседску з сакольскімі Грабянямі). Дзякуючы менавіта гэтай сустрэчы нарадзілася вельмі важная ідэя перавядзення музея ў гімназію. Лашанская родная хата Карскага ўжо не існуе, музей дзейнічаў у тамашняй школе, якую ў неразбярыху савецкай перабудовы перавялі ў другую вёску. Лашанскую педагагічна-культурную ўстанову перарабілі на трохсямейны жылы дом.

У 1995 годзе гімназісты — вучні беларускага дзесятага класа, з дапамогай настаўнікаў і самога Апанаса Цыхуна, з'ездзілі ў Лашу і літаральна з полымя выхапілі асабістыя рэчы Карскага, у тым ліку пяро, прэс-пап'е, чарніліцу, прыжыццёвыя кніжныя выданні Карскага. На жаль, спадчына музея расцярушана, частка экспанатаў знаходзіцца ў Музеі калгаса імя Дзеншчыкава ў Луцкаўлянах. У 1997 годзе адміністратыўныя рэсурсы прымусілі гродзенскую гімназію падзяліцца, аддаць частку экспанатаў. Шкода, што экспазіцыя разарвана, Луцкаўляны гэта ж правінцыя — туды нават трапіць цяжка, ёсць і недахоп добрага наглядальніка, гаспадара, экспазіцыя існуе вяла. Ёсць нават небяспека, што экспанаты ўвогуле могуць раскрасці.

Гімназія безупынна падтрымлівае сувязі з нашчадкамі Карскага, пашырае веды і музейную калекцыю. Апошнім часам праўнук Карскага падарыў музею вельмі каштоўную рэч — прывёз з Пецярбурга асабістую друкавальную машынку свайго прадзеда. На жаль, на ім і перасякаецца род Карскага, таму што




У гімназічным музеі



Сава — падарунак ад гімназіі (сава з'яўляецца адным з сімвалаў Гімназіі № 1 у Гродне)

ён адзін, без дзяцей. Асабістае жыццё Я. Ф. Карскага было абсалютнай трагедыяй. Нарадзіліся ў яго дачка і два сыны, якія загінулі ў ваенных завірухах; адзін ваяваў на баку чырвоных, другі быў пад Калчаком. Карскі да канца сваіх дзён расшукваў інфармацыю пра загінулага без вестак сына, не ведаў, што ваяваў ён менавіта на Калчакоўскім баку. Толькі нядаўна, у 2009 ці 2010 годзе, у Ваенным марскім архіве ў Пецярбургу знайшліся доказы пацвярджаючыя гэты факт.

У калекцыі музея знаходзяцца таксама арыгінальныя фотаздымкі сям'і Карскага, якія падарыў Апанас Цыхун. Можна пабачыць фотаздымак Карскіх у варшаўскі час, калі Яўхім Фёдаравіч быў рэктарам Варшаўскага ўніверсітэта. Да памяці пра яго асобу ў Варшаве дыстанцыюючца. Хаця ён быў выдатным, шанаваным філолагам, усё-такі прадстаўляў у пачатку дваццатага стагоддзя, як афіцыйная асоба, расійскую імперыю. На сённяшні дзень вядуцца даследаванні пра Карскага — рэктара Варшаўскага ўніверсітэта, нават рабіліся захады, каб павесіць там мемарыяльную дошку, але не ўсё так проста і пакуль гэтае пытанне застаецца адкрытым.

Школьны музей збірае таксама народную культуру гродзенскага Панямоння. Вучні разам са сваімі настаўнікамі стварылі там этнаграфічны куток. Ён карыстаецца асаблівай папулярнасцю, таму што наведвальнікі могуць дакрануцца да ўсіх экспанатаў. Ёсць у музеі і крынкаўскі акцэнт — гэта партфель Сакрата Яновіча, які ў свой час быў напоўнены стосам важных архіўных рэчаў, перададзеных самім Сакратам Яновічам спадару Карнелюку.

Узбагачаныя новымі ведамі пра нашу супольную, родную зямлю мы хутка перамясціліся ў школьную канцэртную залу. Вучні і настаўнікі нас ужо там чакалі.

У некалькіх словах распавялі мы пра сваю дзейнасць, пра беларускую бібліятэку, якую вядзем у Крынках і якая карыстаецца штораз большай папулярнасцю. Расказалі пра нашы сустрэчы з найстарэйшымі жыхарамі падкрынкаўскіх вёсак, падзяліліся ведамі пра даўнія з мовыя традыцыі нашага рэгіёна. Спатканне завяршылі беларускімі песнямі, якія спявалі супольна з некаторымі прысутнымі ў зале.

У наш адрас паплылі шчырыя словы падзякі ад настаўнікаў. Яны былі вельмі ўсхваляваныя нашымі аповедамі і спевам. Як самі выявілі, гэтая сустрэча выклікала ў іх патрэбу больш узмоцненай працы па захаванні памяці пра родныя традыцыі, таму што людзей, якія могуць іх чамусьці навучыць, з кожным днём становіцца меней.

Гэты цудоўны, напоўнены падзеямі і незабыўнымі ўражаннямі дзень мы завяршылі ўрачыстай вячэрай у доме гасціннай сям'і Карнелюкоў. У адрозненні ад сібірскіх маразоў за акном нашая цёплая, сапраўды сяброўская бяседа за вельмі багатым беларускім сталом працягвалася да позняй ночы.

## Салэцкі фонд

У мінулым годзе ва Управу гміны ў Кляшчэлях паступіла чатырнаццаць заяў аб прызначэнні салэцкага фонду. Вось якія задачы прад'явілі салэцтвы для рэалізацыі ў рамках гэтага фонду на 2012 год.

Белая Страж - выраўноўванне гміннай дарогі, якая праходзіць праз вёску. Кошт задачы — **4 889 зл.**

Грузка — закупка і выкананне з брусчаткі пад'езда перад святліцай і пракладка бардзюр — 3 614 зл., закупка і ўстаноўка жалезнай брамкі і ўязной замыканай брамы з мэтай забеспячэння ўваходу на тэрыторыю вясковай святліцы — 1 900 зл. Кошт задачы — **5 514 зл.**

Дашы — закупка абсталявання для святліцы — 8 000 зл., аднаўленне сацыяльнага памяшкання для мясцовых пажарнікаў — 1 584 зл. Агульны кошт задачы — **9 584 зл.**

Дабрывада — забеспячэнне святліцы неабходным абсталяваннем: закупка крэслаў — 5 980 зл., выкананне закрыванай на ключ шафы для пункта пракату пасуды — 1 800 зл., закупка халадзільніка для кухні — 800 зл. і электракасілкі з кабелем — 509 зл. Кошт задачы — **9 089 зл.**

Жукі — закупка і ўстаноўка вокнаў у вясковай святліцы — 2 428 зл., выкананне тэхнічнай дакументацыі для правядзення рамонту святліцы — 3 000 зл. Кошт задачы — **5 428 зл.**

Залешаны — выраўноўванне гмінных дарог на ўчастках № 229 і 230. Кошт задачы — **5 751 зл.**

Курашава — выкананне драўнянага прыпынку для дзетак, якія даязджаюць у школу, сумесна з добраўпарадкаваннем тэрыторыі вакол прыпынку. Кошт задачы — **5 535 зл.**

Паграбы — закупка пластмасавага прыпынку для дзетак, якія даязджаюць у школу і добраўпарадкаванне тэрыторыі вакол прыпынку. Кошт задачы — **5 580 зл.**

Палічна — закупка абсталявання для вясковай святліцы: набор кухоннай мэблі — стэлаж, стол, 4 табурэты, 2 вешалкі — 2 280 зл., бытавая тэхніка: халадзільнік, электрагазавая пліта з выцяжкай, мікрахвалевая печка — 2 850 зл., набор кухоннай пасуды: гаршкі, чайнікі, тэрмасы — 550 зл., касілка ўнутранага згарання — 900 зл., маскітныя сеткі — 80 зл., карнішы — 600 зл., ламбрэкены — 300 зл., абрусы — 172 зл. Кошт задачы — **7 732 зл.**

Пятроўшчына — выраўноўванне і прафіляванне гмінных дарог № 106/3 і № 25. Кошт задачы — **4 932 зл.**

Рэпчыцы — закупка паветкі для прыпынку — 3 706 зл., закупка павільёна для агародчыка — 600 зл., закупка 4 набораў мэблі (4 сталы і 8 лавак) — 1 100 зл. Разам - **5 406 зл.**

Сакі — закупка прыпынку для дзетак — 4 100 зл., закупка таблічак з нумарамі дамоў — 3 137 зл. Кошт задачы — **7 237 зл.**

Сухаволцы — забеспячэнне вясковай святліцы неабходным абсталяваннем: крэслы — 5 000 зл., пасуда з чайнікам — 500 зл., газавая пліта з балонам — 1 000 зл., шафка для пасуды і абрусоў — 366 зл. Разам — **7 366 зл.**

Тапаркі — забеспячэнне вясковай святліцы неабходнымі рэчамі: крэслы, кухонныя шафкі, мікрахвалевая печка, электрачайнік, карнішы, фіранкі, настольная пасуда, тэрмасы, насценныя дэкарацыі, кампазіцыі кветак на стол, вядро са швабрай, шторы для акон, абрусы, інфармацыйная табліца. Кошт задачы — **8 806 зл.**

Як канстатавала ў размове бурмістр Кляшчэляў Ірэна Негярэвіч, усе задачы будуць паступова рэалізаваны на працягу бягучага года.

**Уладзімір СІДАРУК**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.iig.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Сярод сонейкаў і сэрцайкаў!

— Першы раз у гісторыі школы маем фіналістаў па беларускай мове, — кажа настаўніца Іаанна Марко, — таму наша радасць большая, чым у іншых школах...

Неўзабаве, 27 лютага г.г., пяцікласнікі Арыядна Бакер і Матэвуш Навумюк прымуць удзел у апошнім, цэнтральным этапе конкурсу.

— Рыхтуемся ўжо больш за два месяцы, — успамінае Арыядна. — Мы астаемся працаваць з нашай настаўніцай два разы ў тыдзень пасля ўрокаў. Нават у час зімовых канікулаў. Не скажу, каб я моцна стамілася. Беларускую мову люблю больш за ўсе прадметы і для мяне такая навука прыемная.

Арыядна, так сказаць, дзяўчына *да танца і да ружанца*.

Яна займаецца ў танцавальным гуртку, прымае ўдзел ва ўсіх мастацкіх конкурсах, любіць тэатр, камп'ютарныя гульні і тэлеперадачы пра жывёльны і раслінны свет.

— А ў мяне цэлы пакой застаўлены кніжкамі, — кажа другі фіналіст Матэвуш Навумюк.

Матэвуш захоплены яшчэ светам камп'ютараў, музыкай (іграе на піяніна) ды ўсякімі мастацкімі конкурсамі. Вельмі рады, што перайшоў ужо школьны і раённы этапы конкурсу.

— Пабачым як будзе далей... — задумваецца.

Зараз усе пяцікласнікі рыхтуюцца да конкурсаў „Роднае слова" і „Пазнай Беларусь".

— Хлопцы спыталі мяне ці можна ім выступіць у беларускіх кашулях на „Родным слове", — адзначае Іаанна Марко. — Для мяне гэта было самае прыемнае пытанне, якое можа пачуць настаўнік.

Пяцікласнікі мараць паехаць летам на экскурсію ў Беларусь. Пакуль яшчэ няма адназначнага рашэння: адны хочуць наведаць старажытны замак у Міры і легендарнае возера Свіцязь, іншыя мараць пра паездку ў Мінск, адкуль родам іх класная сяброўка Эміўка. Дзяўчынка ўжо паабяцала быць гідам па сталіцы Беларусі.

З вучнямі Непублічнай школы імя Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку сустракаемся ўжо пяць гадоў, з часу адкуль існуе школа. Зараз у школе 58 вучняў, з якіх толькі адзінаццаць асоб не вывучае беларускай мовы (яны ходзяць на ўкраінскую).

— З верасня пачне ў нас працаваць гімназія, — кажа дырэктар школы Лена Лаўнічук. Спадарыня дырэктар таксама адзначыла поспехі сваіх *сонейкаў і сэрцайкаў* (так яна называе сваіх вучняў) у прадметным конкурсе па беларускай мове. Яна таксама расказала нам пра планаваную на днях сустрэчу з вучнямі беластоцкай „чацвёркі". Многія вучні гэтых школ хадзілі ў адно беларускае прадшколле, а частка выпускнікоў з „чацвёркі" прыйдзе вучыцца ў праваслаўную гімназію...



Фота Ганны Кандрацюк

**Фота і тэкст Ганны КАНДРАЦЮК**

Расціслаў ВАСЬКО, Тарнопаль

## Вёска

Аднак на вёсцы добра жыць,
Тут дабра не злічыць.
Чыстага паветра ўволю
І прасторы тут даволі.

Зелянеюць лугі вясною,
Дрэвы крыюцца ліствою.
Летам сонца як прыгрэе,
Усё навокал весялее!

Восень аддае багацце,
Поўна робіцца ў кожнай хаце.
Снегам зіма ўсё прыкрывае,
Вёска ціха прысынае.

Хопіць толькі азірнуцца,
А ўжо хочацца вярнуцца,
Да густых лясоў
і да быстрых рэчак,
Каб зноў пабачыць коней,
кароў, авечак.

# Конкурс пра зіму (8)

Прывітанне, сябры! У нас працяг тэматычнага конкурсу, звязанага з перыядам зімы. Разам з адказамі, калі ласка, пазначце нумар конкурсу.

**1. Якое народнае свята адзначалі нашыя продкі на зломе зімы і вясны?**

*а) Хрысток,*
*б) Грамніцы,*
*в) Масленіцу.*

**2. Калі канкрэтна адзначалі Масленіцу?**

*а) цягам месяца лютага,*
*б) на Грамніцы,*
*в) цягам апошняга тыдня перад Вялікім постам, з кульмінацыяй у чацвер.*

**3. Якія гульні і забавы ладзілі ў Масленіцу?**

*а) катанне на санках, гушканне на арэлях,*
*б) спальванне чучала зімы Маранны,*
*в) буджэнне мядзведзя.*

**4. Як называўся этнаграфічны спектакль у гонар вясны і абрад абуджэння мядзведзя, наладжаны ў Бандарах у час III Сустрэч „Зоркі" (глядзіце наш архіў: http://www.e-zorka.pl/)?**

*а) Олень по бору ходіт,*
*б) Масленіца ў наваколлі Бандароў,*
*в) Прылёт ластаўкі.*

Адказы дасылайце да канца лютага 2012 г. (найлепш па электроннай пошце на адрас „Зоркі"). Тут разыграем цікавыя ўзнагароды: беларускія кніжкі, CD і гульні.

**Рашэнне конкурсу № 5:** Сапраўднае імя і прозвішча Янкі Купалы — Ян Луцэвіч (в); псеўданім Самуіла Плаўніка — Змітрок Бядуля (в); Якуб Колас па пашпарце пісаўся Канстанцін Міцкевіч (б); 18 лютага нарадзілася славутая паэтэса Надзея Артымовіч (б).

Узнагароды — CD з беларускай музыкай — выйгралі **Войтэк Куптэль, Марцін Аврчук** з Арэшкава, **Кацярына Сапяжынская** з Беластока. Віншуем!

**ЗОРКА**

# Галерэя ЗОРКІ



Фота Ганны Кандрацюк

**1. Імя і прозвішча:** Арыядна Бакер (Непублічная школа імя Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку).

**2. Твой любімы прадмет:** беларуская мова.

**3. У жыцці хачу стаць:** працаваць у галіне судовай медыцыны.

**4. У сябро ў цаню:** калі яны стрымліваюць таямніцу.

**5. Не люблю:** фальшу і абыякавасці.

**6. Па-беларуску размаўляю:** з бабуляй і настаўніцай беларускай мовы.

**7. Кніжка якая мяне захапіла:** «Смяшынкі» Віктара Шведа.

**8. Падабаецца мне музыка:** беларуская, руская і польская.

**9. Твае ўлюбёныя стравы:** салаткі.

**10. Твой любімы спосаб адпачынку:** люблю танчыць, глядзець тэлевізар і гуляць на камп'ютары.

**11. Калі дарасту хачу жыць:** у нейкай падбеластоцкай вёсцы.

# Як паляўнічы асвятліў цемру!

*(легенда абарыгенаў)*

Гэта здарылася даўно-даўно, дзесьці ў пачатку свету, у далёкай Аўстраліі. Усе жывыя стварэнні — людзі, звяры і расліны — разумелі сваю мову ды адчувалі залежнымі ад сябе. Таму, калі прыходзіла якое гора, жыхары чырвонай зямлі разам шукалі ратунку. Аднойчы, у звычайны будзённы дзень, прапала сонца. Дзень у дзень пачаў ісці дождж, дулі вятры і панавала непрыемная сырасць. Сям'я Вялікага Кенгуру, — так назавем першага ў грамадзе паляўнічага, — сядзела ў хатцы і выглядала сонца. Надаела ўсім гэтая цемра. І яшчэ, як на злосць, скончыліся дровы. Сядзець у сырой хаце без агню і святла горш чым у турме. Ад рання да вечара плакалі дзеці, раўла звярына, наракалі старэчы. Той-сёй пачынаў расказваць казкі пра канец свету...

Вялікі Кенгуру не здаваўся. З рання да ночы хадзіў па сумным дажджлівым свеце і шукаў драўніны, каб агрэць сваю сям'ю. На жаль, усе сухія голлі, кусты і ламачча ўжо былі спалены. Аднойчы, калі Вялікі Кенгуру вяртаўся дамоў, у цемры ён зачапіўся за нейкую перашкоду і грымнуў аб зямлю. Ён падняўся і абрадаваўся, бо той перашкодай была тоўстая сухая галіна, якраз такая, якой шукаў паляўнічы. Задаволены Кенгуру прынёс здабычу ў хату і пачаў ладзіць касцёр. Ён дакрануўся да драўніны і здзівіўся. Усярэдзіне нехта плакаў. Паляўнічы прызваў стварэнне з нутра драўніны. Адтуль выпаўз збяднелы тэрміт і папрасіў паляўнічага:

— Не губі маёй сям'і, добры чалавеча! Пашкадуй! Мы, таксама як людзі, пакутуем ад холаду і сырасці...

Вялікі Кенгуру спачатку ўсхваляваўся. Ён зразумеў, што прапала яго вогнішча і гарачая страва. З другога боку — як жа ратаваць сябе і нішчыць іншых. Той жа тэрміт, як і ён сам, змагаецца за выратаванне сваёй сямейкі. У кожнага стварэння свой клопат, свой боль. Паляўнічы ведаў таксама, што Вялікі Дух адпомсціць яму за крыўду, учыненую насякомым.

Вялікі Кенгуру выйшаў на двор і з усёй моцы дзьмухнуў у шчыліну, дзе хаваліся тэрміты.

І сталася нешта дзіўнае. Насякомыя вылецелі з сярэдзіны дрэва, узняліся ў неба і паляцелі ўвысь. Усё трывала адзін міг. Пасля на небе разбліснулі мільёны зорак.

Людзі глядзелі на цуд і перасталі сумаваць. Яны прадчувалі, што ўсё вернецца ў свае каляіны. Сапраўды, на другі дзень на зямлю зноў вярнулася сонца.

**ЗОРКА**

Карэнных жыхароў Аўстраліі называем абарыгенамі, значыць — першымі жыхарамі. Абарыгены па сённяшні дзень не жадаюць выяўляць сваіх сапраўдных імён. А ўжо найгорш, калі хто зробіць ім здымак. У падобных выпадках, мяркуюць жыхары чырвонага кантынента, іх пазбаўляюць душы. А душа для абарыгена даражэйшая за ўсё на свеце. З яе ўзнікла ўсякае жыццё па прычыне Вялікага Духа. Таму наш герой Вялікі Кенгуру, які выратаваў зямлю ад цемры, таксама мае ўмоўнае імя.

# Музыка з кайфам

## Facebook: Люблю! Like

У час падрыхтоўкі да чарговых майстар-класаў для моладзі па журналістыцы даслалі мне ўдзельнікі для праверкі артыкул. Чытаю: „Не маеш фейсбука — не існуеш". У першых словах майго ліста скажу: няпраўда... хаця шмат цябе абміне.

На фейсбуку сустрэнем амаль усё: ад здымка нованароджанага дзіцяці па запрашэнне на вялікую акцыю ў абарону лесу, жывёл ці свабоды. Не застаюцца ў хвасце навінак, бо ім больш прыемна сустракацца пры спеве і гульнях з жывой традыцыяй. Але тады не так хутка распаўсюджваецца інфармацыя, ад якой залежаць не толькі веды, але і колькасць публікі на мерапрыемстве ці колькасць сяброў, якія, клікаючы „Люблю", мабыць, пацвярджаюць вартасць дадзенай прапановы. Гавару „мабыць", бо праверыць гэта можна толькі будучы ўдзельнікам здзіўляе, што гэта таксама прастора абмену інфармацыяй у галіне музыкі. Аказваецца, што музыка прыналежыць самым блізкім патрабаванням чалавека, пра што сведчаць запрашэнні на музычную падзею, справаздачы з канцэрта ці лінкі да любімага выканаўцы або толькі да што адкрытага відэакліпа. Не ведаю ці хтосьці правядзіў даследаванні, якія паказалі б ступень нашага зацікаўлення канкрэтнымі тэмамі, але ўсё ж такі думаю, што музыка папала б у топ-спісак. У маім топ-спіску цікаўнасці апынулася група ці кола сяброў пад назвай „Фольк на Падляшшы". Па-першае таму, што ўрэшце выявіліся аматары фольк-музыкі, якія хацелі падзяліцца сваімі ўражаннямі ў новай інфармацыйнай прасторы. Найчасцей бывае так, што новымі сродкамі камунікацыі ў першую чаргу карыстаюцца слухачы альтэрнатывы, гіп-гопа ці іншых жанраў, якіх слухае ў галоўным моладзь. Менавіта яна першай распрацоўвае ўсе цывілізацыйныя навінкі. Часта фольк-аматары канцэрта ці іншага мерапрыемства, а быць актыўным і свядомым атрымальнікам культуры сённа гэта выклік, таксама ў дачыненні да маладога чалавека.

„Музыкі з кайфам" пакуль няма на фейсбуку, таму каб сказаць „Люблю" звычайна трэба адкрыць „Зорку", а раней... набыць „Ніву".

*i_basovka@o2.pl*

# Вершы Віктара Шведа

## Калі з'явіўся конь?

— Скажы ты нам Лявонь,
Няхай пачуюць дзеці,
Калі з'явіўся конь
На нашым Божым свеце?

— Я думаю ў той час
З'явіўся конь, кабыла,
Калі згубіў Пегас
У лёце свае крылы.

## Ці ты бачыў?

— Ці ты бачыў сотню
злотых змятых?
— Бачыў і іх шкадаваў тады.
— А ці бачыў дваццаць
тысяч страты?
— Я такой не перажыў бяды.

А што сталася, хачу дазнацца,
Прашу хутчэй аб гэтым
раскажы.
— Я ведаю, што будзеш
ты злавацца,
Калі ўбачыш страту ў гаражы.

# Польска-беларуская крыжаванка № 8

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 4:**

Моц, месца, цар, цацка, цацарка, на, зайчык. Мацак, перац, цана, край, марак, цёця, як.

Узнагароды, фламастэры, выйгралі **Кася Мучко, Барташ Ламашкевіч** з Нараўкі, **Магдалена Навіцкая, Габрыель Кузьміч** з Бельска-Падляшскага, **Каміля Навіцкая** з Арэшкава, **Янка Конюх, Паўлік Савіцкі** з Беластока. Віншуем!

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| ▶ | ▼ | | | Śnieg | Kary-katura | ▼ | 📖 | Skrzypek | ▼ |
| Szafa | Finał / Jeździec | | Stadko ▶ | ▼ | | | | | |
| Jan ▶ | ▼ | | Mina | | Żart | | Atol | 📖 | |
| Zagranica ▶ | | | ▼ | | ▼ | | ▼ | 📖 | |
| ▶ | | | | | | 📖 | | 📖 | |
| Odwilż | | 📖 | | 📖 | | Oda ▶ | | | |
| Dzielnica ▶ | | | | | | | | 📖 | |

# Мост і чалавек

Шмат разоў мне даводзілася ездзіць па мосце праз раку Нёман, які злучае вёскі Правыя і Левыя Масты. Мост металёвы, але не зварны. Пабудаваны дабротна. Яшчэ ў маленстве, у далёкім 1968 годзе, мне даводзілася назіраць, як падчас вайсковых вучэнняў па ім рухаліся танкі і пры гэтым не нанеслі яму ніякай шкоды.

Згодна гістарычных звестак, будаўніцтва моста было закончана ў 1929 г. У той час гэтая тэрыторыя належала да Польшчы. Збудаванне, што мела палепшыць дабрабыт людзей, прынесла і чалавечыя ахвяры. Прычым вельмі дзіўным чынам.

Некалькі гадоў таму назад мне давялося быць у Варшаве ў Інстытуце за дэмакратыю ва Усходняй Еўропе. І там зусім выпадкова аказаўся ў гэты час Чэслаў Сэнюх, наш зямляк. А яшчэ было больш прыемным, што ён выказаў жаданне пазнаёміцца са мною. Чэслаў Сэнюх — знакаміты літаратар, перакладчык, стала жыве ў Варшаве. Падчас нашай гутаркі я даведаўся, што ў свой час яго бацька будаваў вышэйзгаданы мост. Нягледзячы на тое, што аповед Чэслава Сэнюха ў некаторых падробнасцях не дакладны, ён даволі цікавы і варты ўвагі чытача.

Падчас першай сусветнай вайны Станіслаў Сэнюх — бацька Чэслава — быў у бежанстве ў Кіеве.

Савецкая ўлада, што ўсталявалася пасля рэвалюцыі 1917 года, яму не спадабалася і дзесьці ў сярэдзіне дваццатых Станіслаў з сям'ёю вярнуўся на тэрыторыю Заходняй Беларусі. Нелегальна перайшлі мяжу, але ў Баранавічах быў затрыманы тагачаснымі ўладамі і за гэта Станіслаў Сэнюх панёс турэмнае пакаранне.

Сям'я Сэнюхаў пасялілася ў Любчы ды пачала будаваць уласны дом. Бацька будаваў яго сам. І ўвогуле ён быў майстар на ўсе рукі. Мог зрабіць не толькі стол, шафу, але нават і гітару.

Для заканчэння будаўніцтва неабходны былі грошы і таму Станіслаў Ігнатавіч уладкаваўся на будоўлю моста праз Нёман на скрыжаванні гасцінцаў з Гродна ў Слонім і з Брэста ў Вільню.

Чэслаў нарадзіўся крыху пазней і таму не ведае ўсіх акалічнасцей звязаных з працай бацькі па пабудове гэтага аб'екта. Аб тым пазней распавядалі сваякі.

Заробленых грошай хапіла, каб дабудаваць дом.

Гісторыя гэтая мае свой працяг. У 1939 годзе распачалася другая сусветная вайна. Германія акупавала цэнтральную Польшчу, а Савецкі Саюз збройна далучыў да сябе Заходнюю Беларусь. Берыяўскія каты адразу распачалі арышт іншадумцаў ды заможных людзей на гэтай тэрыторыі. Завіталі яны і ў дом Станіслава Сэнюха. У час вобыску ў шуфлядзе стала быў знойдзены план моста. Гэтага хапіла, каб арыштаваць чалавека. „Ты маеш план моста праз Нёман. Добра ведаеш збудаванне і ў любы момант можаш разбурыць яго", — цвердзіў бязглуздзіцу следчы. Станілава Сэнюха абвінавацілі ў падрыхтоўцы дыверсіі і асудзілі. Пакаранне адбываў у адным з канцлагераў Краснаярскага краю. Чалавек не вынес суровых умоў зняволення і неўзабаве памёр. У 1941 годзе сям'я даведалася, што бацькі ўжо няма ў жывых.

Пасля заканчэння вайны сям'я Сэнюхаў выехала на сталае жыхарства ў Польшчу.

Чэслаў Сэнюх у прыватнай гутарцы выказваў вялікі смутак, што яму так і не давялося пабачыць мост, які будаваў яго бацька і які стаў прычынай яго смерці.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

# ЗАСЛУЖАНЫЯ для Гайнаўскага павета

Тэкст і фота
**Аляксея МАРОЗА**

**Ужо чацвёрты раз былі ўручаны медалі „Заслужаны для Гайнаўскага павета", устаноўленыя ў 2008 годзе. Рада павета ўзнагароджвае імі грамадзян за грамадскую дзейнасць, за дасягненні ў галіне культуры, спорту, мясцовай гаспадаркі і прамоцыі рэгіёна. Сёлетняя ўрачыстасць адбылася 3 лютага ў Гайнаўскім доме культуры ў прысутнасці мясцовых самаўрадаўцаў і гасцей, сярод якіх прысутны былі, між іншым, паслы Сейма Роберт Тышкевіч (Грамадзянская платформа) і Яўген Чыквін (СЛД), незалежны сенатар Уладзімеж Цімашэвіч і консул Генконсульства Рэспублікі Беларусь у Беластоку Таццяна Нікалаёнак. Перад сабранымі выступілі выхадзец з Гайнаўшчыны Анатоль Баравік — з песнямі Булата Акуджавы і моладзь са Студыі эстраднай песні ГДК — з сучаснай музыкай.**



Лаўрэаты звання „Заслужаны для Гайнаўскага павета" (злева): Аляксандр Юркевіч, Віктар Кабац, Мар'юш Кубацкі, Яўгенія Альшэўская, Мікола Павільч, Міраслава Паўлоўская, Эдвард Панецкі, Міхал Пуц і Тамаш Самойлік

— Узнагароджаныя намі людзі, рэалізуючы свае зацікаўленні, спрычыняюцца да развіцця Гайнаўскага павета. Прапановы вылучыць да ганаровага звання выйшлі ад няўрадавых арганізацый і ад павятовых улад. Разглядаліся яны нашай управай і пасля ўсе былі адобраны Радай Гайнаўскага павета, — заявіў гайнаўскі староста Уладзімір Пятрочук, які старшынствуе Павятовай управе.

Стараста гаварыў таксама пра Гайнаўскі павет, называючы яго козырамі прыгранічнае размяшчэнне і багацце прыроды Белавежскай пушчы. Мерапрыемства вёў віцэ-стараста Андрэй Скепка, які коратка расказаў пра заслугі ўзнагароджаных медалём „Заслужаны для Гайнаўскага павета" асоб. Сярод дзевяці сёлетніх лаўрэатаў хіба найбольш вядомай асобай з'яўляецца мастак Віктар Кабац.

— Я нічога асаблівага не зрабіў, каб мяне вылучаць у лік узнагароджаных, — сказаў Віктар Кабац. — Я не ведаю, якая мая дзейнасць была заўважана, але важнай я лічу сваю працу па ўвекавечванні памяці людзей. Запраектаваў я і паставіў у Белавежскай пушчы на горцы Баторыя помнік генералу Станіславу Булак-Балаховічу, на Майдане ў Гайнаўцы — помнік расстраляным там жыхарам Гайнаўшчыны, а ў Тапіле — помнік вывезеным у Сібір і загінуўшым у Катыні і Курапатах.

Мастак Віктар Кабац вядомы перш за ўсё як аўтар цікавага жывапісу, вядучым лейтматывам якога з'яўляецца Белавежская пушча і яе наваколле ды Беларусь. Быў ён ужо ўзнагароджаны ў маштабе ваяводства і краіны — атрымаў „Залатую адзнаку Міністра культуры", адзнакі „Заслужаны дзеяч культуры" і „Заслужаны для Беласточчыны", а некалькі гадоў таму ад Ломжынскага аб'яднання „Стопка" атрымаў прэстыжны „Медаль Зыгмунта Глогера". Для Віктара Кабаца медаль „Заслужаны для Гайнаўскага павета" стаў своеасаблівым дапаўненнем да звання заслужанага гайнавяніна (некалькі дзён раней, так як амаль усе іншыя сёлетнія павятовыя лаўрэаты — за выключэннем Аляксандра Юркевіча з Рэспублікі Беларусь — апынуўся ён у ліку 156 асоб узнагароджаных юбілейным медалём з нагоды 60-годдзя атрымання Гайнаўкай гарадскіх правоў за дзейнасць у карысць горада). Мастак Віктар Кабац вядомы ў Гайнаўцы і на Гайнаўшчыне таксама як грамадскі дзеяч. Многа дапамагаў ён у ладжанні выставак у Нараўцы ды ў Беларускім музеі, Гарадской публічнай бібліятэцы і Педагагічнай бібліятэцы ў Гайнаўцы.

— Можа заўважылі мастацкія пленэры, якія я арганізаваў, ці маю дзейнасць у мастацкай галерэі ў Нараўцы. Гэтая праца для мяне — чыстая прыемнасць. У час пленэраў я раблю тое, што люблю і гэта спрычыняецца да ўнутранага задавальнення, — дадаў Віктар Кабац.

Узнагароджаныя наогул не скрывалі радасці ад таго, што іх дзейнасць была заўважана.

— Атрыманне звання „Заслужаны для Гайнаўскага павета" гэта для мяне гонар і адначасна падказка, што тое, што раблю, было станоўча ацэненае і трэба яго працягваць надалей, — сказаў войт Нараўчанскай гміны Мікола Павільч. Кіраваная ім гміна ўзнагароджвалася ў маштабе краіны за падтрымку развіцця мясцовай эканомікі, турызму, спорту і адпачынку.

— Мне здаецца, што вылучылі мяне галоўным чынам за дзейнасць у аб'яднанні „Універсітэт III веку", якому я старшынствую пяты год. Такая грамадская дзейнасць уцягвае і дае многа задавальнення з таго, што можна дапамагаць іншым, цікава праводзіць вольны час і ствараць магчымасць многаму навучыцца, — сказала Міраслава Паўлоўская, старшыня аб'яднання „Універсітэт III веку" ў Гайнаўцы, у якім задзейнічаных было больш за 200 чалавек.

Адразу можа здацца, што найлягчэй прызначаць узнагароды ў галіне ангажаванасці ў развіццё мясцовай эканомікі, бо гэта можна вымяраць канкрэтнымі гаспадарчымі дасягненнямі. Аднак гаспадарчы поспех прадпрыемства можа не ісці ў пары з ангажаванасцю яго ўласніка ці саўласніка ў дадатковую дзейнасць у карысць мясцовага насельніцтва. Напрыклад, падаткі могуць выводзіцца ў прадпрыемства-матулю ў іншым горадзе Польшчы. У катэгорыі гаспадарчай дзейнасці ацэньваецца не толькі стварэнне новых месц працы. Міхал Пуц з Гайнаўкі, чарговы лаўрэат звання „Заслужаны для Гайнаўскага павета", пачынаў прадпрымальніцкую дзейнасць у якасці рабочага — сам устаўляў пластмасавыя вокны ў дамах і жылых блоках у Гайнаўцы і наваколлі. Яго будаўнічае прадпрыемства „Domlux" разраслося, пашырыў ён сваю дзейнасць, адкрываючы вялікі магазін з будаўнічымі матэрыяламі. Прытым многа дапамагаў у арганізаванні культурных мерапрыемстваў. Іншым узнагароджаным гайнаўскім прадпрымальнікам з'яўляецца Мар'юш Кубацкі, які ўдала працягвае дзейнасць свайго бацькі. Яго прадпрыемства „Moderator" выконвае шторaз навейшыя мадэлі ацяпляльнага абсталявання. Спадар Кубацкі таксама ўспамагае культурную і спартыўную дзейнасць у Гайнаўцы. Адзіным узнагароджаным з-па-за Гайнаўшчыны быў Аляксандр Юркевіч, старшыня Пружанскага раённага выканаўчага камітэта. У рамках Еўрарэгіёна „Белавежская пушча" Пружанскі раён шчыльна супрацоўнічае з Гайнаўскім паветам, перш за ўсё ў галіне культуры і спорту. Менавіта ўлады Еўрарэгіёна „Белавежская пушча" запрапанавалі ўзнагародзіць прадстаўніка аднаго з членаў сваёй няўрадавай арганізацыі.

— Адзнаку я ўспрымаю як узнагароду за працу. Гайнаўскае староства і Пружанскі райвыканкам зрабілі многа, каб нашыя людзі былі бліжэй, не забываліся адзін другога, каб развіваліся нашыя супольныя праграмы, — заявіў старшыня Пружанскага райвыканкама Аляксандр Юркевіч.

У ліку астатніх сёлетніх лаўрэатаў апынуліся шматгадовая гайнаўская лекарка-педыятр, зараз віцэ-дырэктарка Самастойнай публічнай установы аховы здароўя ў Гайнаўцы Яўгенія Альшэўская, гісторык Белавежскай пушчы доктар Тамаш Самойлік і шматгадовы спартсмен, а зараз спартыўны дзеяч і арганізатар спаборніцтваў па настольным тэнісе Эдвард Панецкі.

Да гэтай пары знакам „Заслужаны для Гайнаўскага павета" ўзнагароджаных было 39 асоб. У іх ліку апынуліся людзі вядомыя не толькі на Гайнаўшчыне, але і на Падляшшы ды ў краіне, напрыклад, сенатар Уладзімеж Цімашэвіч, архіепіскап Міран ці старшыня суполкі „Пронар" з Нарвы Сяргей Мартынюк.

— Званне „Заслужаны для Гайнаўскага павета" гэта не толькі ўзнагарода, але і вялікае абавязацельства перад насельніцтвам Гайнаўшчыны да яшчэ больш інтэнсіўнай працы, — сказаў мінулагодні лаўрэат згаданага звання, мастацкі кіраўнік ляўкоўскіх „Цаглінак" Мікола Мяжэнны. Побач яго на мерапрыемстве бачыў я таксама іншых лаўрэатаў узнагароды „Заслужаны для Гайнаўскага павета" папярэдніх гадоў, між іншым, мастацкага кіраўніка вакальнага калектыву „Знічка" з Гайнаўскага белліцэя Бажэну Ляўчук і гайнаўскага трэнера дзюдо Якуба Астапчука, якога вучні дабіваюцца поспехаў на агульнапольскіх спаборніцтвах.

Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ

# Агароднічкі не здаюцца



**Непадалёк Беластока — сапраўдныя горкі. Цяпер заснежаныя. На раскапанай жвіроўні быў тут сапраўдны сноўпарк. У 2004 годзе праводзіўся тут першы агульнапольскі чэмпіянат па гарналыжным спорце! Гэта Агароднічкі ў Супрасльскай гміне. Да гміны Супрасль належыць чатырнаццаць салэцтваў — Агароднічкі, Каракулі, Цеснае, Грабаўка, Засцянкі, Сабалева, Саўляны, Генрыкова, Целічанка, Суражкова, Сакалда, Варонічы, Лазні і Ялоўка. А тут, ледзь пару кіламетраў ад Беластока — і гарналыжны схіл, які прыцягваў беластачан. Праўда, з'езд са схілу на лыжах трываў ледзь пару хвілін, але было гэта дасканалае месца для першых заняткаў перад выездам у сапраўдныя горы. Схіл, вышынёю ў 200 метраў, быў штучна заснежваны і асветлены. На гару лыжнікі ўцягваліся пад'ёмнікам-орчыкам. Уезд туды каштаваў 1 злоты ў будны дзень, 1,20 зл. — ва ўік-энды. Лыжны пад'ёмнік ужо разабраны.**

Уласнікам асяродка ў Агароднічках (апрача схілу стаяць там дачныя домікі, маецца месца для вогнішча) было Падляшскае згуртаванне інвалідаў „Старт". А грунт належыць да супольнасці вёскі Агароднічкі. „Старт" стараўся за фінансавую падтрымку самаўрадаў, але не атрымаў ні злота, бо ніякая ўстанова не дасць арганізацыі грошай на інвестыцыю на зямлі, якая не з'яўляецца яе ўласнасцю. А ўласнік зямлі — „wspólnota gruntowa" вёскі Агароднічкі. А спрэчка датычыла таксама неўрэгуляваных спраў звязаных з тэрміновым падпісваннем дамоў і рэгулярнымі аплатамі за арэнду. „Супольнасць далей хоча быць уласнікам гэтай тэрыторыі, а мы не ўкладзем ні залатоўкі ў пад'ёмнік, калі гэтая зямля не наша", — заяўляе старшыня „Старту", дзелячы чужыя грошы на жывым мядзведзі.

Вёска Агароднічкі, як адна з нешматлікіх вёсак пад Беластокам, з'яўляецца мясцовасцю вельмі атракцыйнай па будаўнічай прыкмеце. Мае яна каля дваццаці названых вуліц. Грунт каштуе каля 160 злотых за квадратны метр. Вёска Агароднічкі да падзелу мае 250 га супольнасці. Супольнасць — рэлікт царскіх сервітутаў. Гэтая форма ўласнасці засталася пасля аграрнай рэформы 1864 года. Усе жыхары з'яўляюцца ўласнікамі кавалка зямлі, так як у Агароднічках, дзе зямлю распарцалявалі на меншыя ўчасткі. Рашэнне аб выкарыстанні грунту залежыць ад волі большасці жыхароў. Жвіроўня, лес, палеткі, а нават ставы гэта зямля каля ста чалавек (людзей у вёсцы больш за 700). Жыхары Агароднічак гадамі стараюцца камасаваць грунты і ўпарадкаваць сітуацыю тым больш, што ЕС плаціць за такія камасацыі. Беластоцкі староста лічыць, што камасацыяй грунтаў у Агароднічках павінна заняцца гміна Супрасль, а не староства.

— Беластоцкія павятовыя чыноўнікі маюць на галаве больш дзесятка такіх супольнасцей, наракаюць на ўрад, які не навелізаваў закону аб гаспадаранні супольнасцямі, — кажа радны Даніла Садоўскі. А вёска чакае.

Але не паціху. Спатыкаемся пры канцы калядных святаў, у святліцы ў Агароднічках, на шматлюднай сустрэчы: вёска Агароднічкі, прадстаўленая перш за ўсё калектывам „Журавінкі", прымае ў гасцях калектыў „Jarzębina" з Каракуляў. А разам з імі за калятнымі сталамі заселі дзяўчаты, якія вывучаюць белы спеў, на чале з Юлітай Харытанюк і Аняй Амэльчук, якая вядзе заняткі ў святліцы. Яшчэ на трыццацігоддзі калектыву „Журавінка" (2008 г.) святліца выглядала іначай. Цэнтр культуры і адпачынку ў Супраслі, пераможца конкурсу аб'яўленага Нацыянальным цэнтрам культуры на сваю канцэпцыю Цэнтр лакальнай культуры ў Падляшскім ваяводстве з праектам „Гміна Супрасль: малая айчына — вялікі свет", атрымаў амаль 3 мільёны злотых датацыі на 2010-2012 гады і апрацаваў сістэму, якая ахоплівае ўсю гміну, з аднаўленнем святліц, з выкарыстаннем разнароднага культурнага і мастацкага патэнцыялу ўсіх жыхароў і кантакту ўсіх іх з мастацтвам. Праект мае стварыць сістэму мікрадамоў культуры з існуючых у гміне шасці святліц у форме Гмінных мастацкіх майстэрняў, кіраваных цэнтрам з Супраслі. Майстэрні маюць быць так абсталяваныя, каб прапанаваць розныя формы заняткаў — мець камп'ютарныя залы, абсталяванне для тэатральных, канцэртных, мастацкіх, спартыўных, фільмавых дзеянняў, мець таксама кухонны анекс, эстэтычныя туалеты, экспазіцыі для выстаў унутры і вонкі. Праведзены ўжо рамонты святліц м.інш. гэтай у Агароднічках, Сабалеве, Генрыкове, Цесным, Саўлянах. Пачаліся новыя дзеянні ў рамках праекта — тэатральна-перфарматыўныя, музычна-літаратурныя майстар-класы, аб'язное кіно, мастацкія майстар-класы, ведзеныя выпускнікамі супрасльскага мастацкага ліцэя... Рэалізуюцца пляцоўкі для гульняў дзяцей, прэзентацыі, майстар-класы, інтэграцыйныя імпрэзы. Рамонты святліц гэта таксама адпаведнае ўцяпленне будынкаў, як у Каракулях і ў Агароднічках, у гэтым старадаўнім „Людовым доме". Сучасным домам культуры святліца стала ўжо ў 2007 годзе, а „Журавінкі" запрашаюць не толькі на сустрэчы гуртка вясковых гаспадынь, але і на вядомыя ў ваяводстве летнія „Пікнікі з Журавінкамі". Яшчэ арганізуюцца тут „Падляшская спаванка", Дзень жанчын для сеніёраў, вечарыны аматарскіх тэатраў, Дзень зямлі ды індывідуальныя і калектыўныя чэмпіянаты Польшчы інвалідаў руху па шахматах. І ўсюды непаседная Ліда Матэйчук, амаль тры дзесяткі гадоў тутака лістаношка, гаспадыня і спявачка.

— Запрасілі нас у Варшаву на з'езд ПСЛ. Прадстаўляў нас Збігнеў Ліпскі: „My — z Podlasia". А мы ім грымнулі „Люблю наш край, старонку гэту". „Журавінкі" ўзніклі як аматарскі фальклорны калектыў у 1978 годзе. Заснавальніцай і старшынёй калектыву была Ванда Матэйчук, пасля вяла яго Ніна Аўгустыновіч, а ад юбілею — я. Ідэя нарадзілася ў гуртку вясковых гаспадынь. Спачатку спявала дзесяць кабет. Спяваем мы перш за ўсё па-беларуску, ведаем таксама і польскія, і ўкраінскія песні. Ахвотна ўдзельнічаем ва ўсіх беларускіх фестывалях, фэстах, кірмашах. Здабылі мы шмат адзнак і вылучэнняў. Чатыры спячаўкі ўжо адышлі ад нас на той свет...

Гмінная майстэрня культурнай адукацыі ў Агароднічках — так называецца святліца, у якой сёння гасцюем пры калядках і не толькі пры іх. Аня Амэльчук адправіла дадому малечаў (не толькі з вёскі), якія на зімніку праводзілі мастацкія канікулы. А сярод дарослых асоб вельмі папулярныя тут бясплатныя майстар-класы па традыцыйных песнях (белым спеве), ведзеныя Юлітай Харытанюк, якія адбываюцца раз у тыдзень у сераду. У праграме заняткаў фізічныя, дыхальныя, дыкцыйныя, музыкальныя практыкаванні, праца над голасам, мелодыяй і тэкстам песень. Юліта Харытанюк — культуразнаўца, інструктар мастацкага рукадзелля, працаўнік Беластоцкага музея вёскі, выканаўца традыцыйных песень, удзельніца музычных праектаў і даследчыцкіх экспедыцый на тэрыторыі Падляшша і Палесся. Удзельнічала ў музычным праекце „Ethno-Lyrics", спявала ў „Чарамшыне", архівізуе песні з-над Нарвы. На сённяшняй сустрэчы з сяброўкамі з Лодзі, Варшавы (цяпер жывуць тут), Беластока і ваколіц выконвае песні, запісаныя ў старэнькіх сшытках пажылых удзельніц бяседы. Тыя сядзяць за другімі канцамі сталоў — з аднаго боку бабулькі з „Агароднічак", з другога — у большасці таксама немаладыя каракульцы з маладой „арабінкай" — Марцінам з гармоніяй, які выступае разам з маці. Усе абменьваюцца сшыткамі і спяваюць — па-беларуску, па-польску, па-старaславянску. Бывае, што кожную калядку спяваем на дзвюх мовах. Падглядваю ў сшытак пані Алі з „Jarzębiny" — выведзены там лацінкай „Чом ты не прыйшоў", „Хорошы госці у мэнэ", „Зеленэ жыто, зеленэ...". І радны Даніла Садоўскі пачынае спяваць калядку мужчынскім неапрацаваным голасам, па-беларуску. Значна лепш ідзе яму аповед пра гмінныя актуальнасці, між іншым, пра справы супольнасці, транспарту (будуць ездзіць беластоцкія аўтобусы ў Супрасль), гісторыю ваколіц, сягаючы да навуковых выданняў, між іншым, пра двор Хадкевічаў у Каракулях.

— Праз Каракулі праплывае рэчка Балбытка, а называецца яна ў сапраўднасці Каракулька, па форме крывулькі, — тлумачыць зацікаўленым слухачам. — А як назваць жыхара Каракуляў?

— Каракулец! Каракулянін — як „амерыканін"! Не, „каракулянец"! — пануе рознагалоссе і смех. — А жанчына — „каракулька"? „Каракулянка"? А наша — „агароднічанка"? Ці „агароднічка"?..

Агароднічкі — вёска, ды едучы тыя 8 кіламетраў ад Беластока ледзь заўважыш, што ты апынуўся ў сельскай мясцовасці. Добра тут пабудавацца — рукой падаць у сталіцу ваяводства. Ды неяк наракаюць ласыя гараджане ды чыноўнікі — штосьці цяжкавата размаўляецца з „агароднічкамі", хоць бы ў справе „нічыёй" жвіроўні — гарналыжнай горкі. А сучаснасць прэцца туды: на новыя ўрокі гісторыі з браніраванымі грузавікамі, танкамі, кулямётамі, бронетранспарцёрамі, ваеннымі палаткамі. Супрасльскія радныя аддалі будынак старой (узнікла яшчэ за царскім часам) прыгожай школы ў бясплатную арэнду Towarzystwu Inicjatyw Społecznych „Czemu By Nie". Гэта яно арганізуе Мілітарныя пікнікі (першы — з нагоды 180-годдзя бітвы на Сакалдзе). Маюць тут адбывацца ўрокі гісторыі, экалогіі, у суседстве ўзнікне Адукацыйна-мілітарны парк. Паблізу паробяць акопы і бункеры.



Аляксандр ВЯРБІЦКІ

# Сакрум



*Толькі што мінулі Каляды, а ўжо і Вялікдзень здаецца абвяшчаць сваё наближэнне. Не сам Вялікдзень, а Вялікая пятніца. І не Ерусалім тут галоўным полем дзеяння, толькі Мінск. Менавіта там не надта даўно суд абвясціў, як у Евангеллі, двух разбойнікаў, з каторых адзін быццам пакаяўся перад тамашнім „збавіцелем", а другі не. Адно толькі выглядае, што далейшы працяг інтрыгі будзе крыху іншы чым у Пісанні...*

*Пісанне, пяром мудрага цара Саламона, сцвярджае, што няма нічога новага, што ўсё тое, што маем зараз, ужо было здарылася. Гэтак жа здаецца мне быць і з тэрарыстычным актам у мінскім метро, паколькі назіральнікі за ходам падзей вакол яго маюць шмат сумненняў адносна справядлівасці ходу расследавання і выяўлення віноўнікаў. Таму я вось вяртаюся ў мінулае, каб звярнуць увагу на аналаг, які быў ужо здарыўся.*

*У 1934 годзе ў Ленінградзе быў забіты Сяргей Кіраў. Наконт таго забойства ёсць розныя меркаванні, у тым ліку і такое, што забойца, Леанід Нікалаеў, кіраваўся рэўнасцю за жонку, да якой меў прыставаць Кіраў. Іншыя мяркуюць, што забойства было выканана па загадзе самога Сталіна. Як бы там не было, пасля гэтага здарэння ўлады аб'явілі, што забойства ўчынілі ворагі Савецкага Саюза. Ужо ў той самы дзень, 1 снежня 1934 года прэзідыум Цэнтрвыканкама СССР прыняў пастанову „О внесении изменений в действующие уголовно-процессуальные кодексы союзных республик": „Следственным властям — вести дела обвиняемых в подготовке или совершении террористических актов ускоренным порядком. Судебным органам — не задерживать исполнение приговоров...". Спешка гэтая дазваляе падазраваць, што забойства было прадбачана загадзя, што яно было патрэбнае для палітычных мэтаў, для ліквідацыі магчымых прэтэндэнтаў Сталіна на бальшавіцкі трон. Дарэчы, пасля і пачаўся г.зв. Вялікі тэрор. З малога тэракта пачаўся масавы, вялікі тэрор.*

*У выпадку мінскага тэракта падзеі выглядаюць, калі мова пра дэталі, інакш, аднак у агульнасці даволі сходна. Бо ж ёсць меркаванні, што выканалі яго ўладныя органы, на што паказвае і даволі неразборлівы, паводле назіральнікаў, разбор гэтай справы лукашэнкаўскімі судамі. І два засуджаныя на смяротнае пакаранне хлопцы магчыма папаліся толькі таму, што цікавіліся піратэхнікай, што рабілі яны гэта з уласнай цікавасці, без уладнай санкцыі. У таталітарнай дзяржаве нагул нічым нельга займацца самавольна, без санкцыі, так як нельга прэтэндаваць от так сабе на ўладу, на вярхоўную ўладу.*

*Аб'яўленне самім Лукашэнкам хуценька, ужо два дні пасля здарэння, нібыта злачынцаў таксама наводзіць падазрэнні менавіта на яго. І здаецца мне, што паводле сталінскага сцэнарыя, мінскі тэракт ад 11 красавіка 2011 года з'яўляецца працягам той прэлюдыі, якая адбылася 19 снежня ранейшага года, да больш жорсткага тэрору, да вялікага тэрору ў адносінах да беларускай апазіцыі. Праўда, той тэрор яшчэ даволі мяккі — у параўнанні са сталінскім — аднак сакавіцкі тэракт амаль гадовай даўнасці дазваляе прадбачваць ужо больш рашучыя меры. Бо ж не вялікая тайна, што Сталін з'яўляецца кумірам Лукашэнкі.*

*Нейкі час, год ці два таму, настаяцель аднаго з расійскіх прыходаў павесіў у сваёй царкве ікону Сталіна. Праўда, гэтая ініцыятыва пакуль што не атрымала агульнага прадаўжэння, аднак у Расіі яна мае шматлікіх прыхільнікаў. У праведзеным у 2008 годзе трох апытаннях на „Імя Расіі" Сталін займаў вельмі прэстыжныя месцы — ад трэцяга да сёмага. Ува ўсіх гэтых апытаннях яго абганяў толькі прылічаны ў лік святых князь Аляксандр Неўскі; іншыя „імёны" — Гагарын, Ленін, Пушкін — са Сталіным ракіраваліся. А кім жа быў той святы князь? Расійская версія Вікіпедыі паведамляе: „Веками считалось, что Александр Невский сыграл исключительную роль в русской истории в тот драматический период, когда Русь подверглась удару с трёх сторон, в нём видели родоначальника линии московских государей и великого покровителя православной церкви. Подобная канонизация Александра Ярославича со временем стала вызывать возражения. Как констатирует руководитель кафедры отечественной истории МГУ Н. С. Борисов, „любители разрушать мифы постоянно „подкапываются" под Александра Невского, и стараются доказать, что и брата он предал, и татар он навёл на русскую землю, и вообще непонятно, за что его великим полководцем считают". Іншы расійскі гісторык, Валянцін Янін, мяркуе: „Александр Невский, заключив союз с Ордой, подчинил Новгород ордынскому влиянию. Он распространил татарскую власть на Новгород, который никогда не был завоеван татарами. Причём выкалывал глаза несогласным новгородцам, и много за ним грехов всяких". Ігар Данілеўскі: „Александр Невский сознательно пошёл на союз с татарами, чтобы использовать их для укрепления личной власти. В долгосрочной перспективе его выбор предопределил формирование на Руси деспотической власти".*

*Вось гэты апошні сказ і раскрывае, чаму „идеализация Александра достигла зенита перед Великой Отечественной войной, во время и в первые десятилетия после неё" — гэта ж у пік сталінскага тэрору! І калі б пры Сталіне не было ганенняў на Царкву, ён верагодна, таксама як і Аляксандр Неўскі, быў бы ўжо ў ліку святых. Аляксандр Лукашэнка некаторыя ўрокі расійскай гісторыі XIII і XX стагоддзяў вывучыў, здаецца, няблага і выдатна ладзіць лады з найважнейшымі іерархамі. І калі яму не ўдалося ўзабрацца на крамлёўскі трон, ён меціць вышэй — у іканастас, а як паказваюць апошнія весткі з Мінска — у даволі высокае там месца, вышэйшае, чым займае славуты яго цёзка.*

## http://ygallery.by

Галерэя Мастакі Выставы Падзеі Праекты Навіны Паслугі

Кожнае мастацтва, у тым ліку і беларускае, рэч шматгранная. Асабліваcцю беларускага мастацтва, відаць, з'яўляецца тое, што жыве ў нейкім сэнсе ў своеасаблівым адрыве ад навакольнага асяроддзя. І ўсё з адной толькі прычыны — асяроддзе ў Рэспубліцы Беларусь цяжка назваць беларускім. Таму на беларускае мастацва ва ўсіх яго праявах часцяком глядзяць як на нейкія дзівосы, што невядома на якіх падставах існуюць. Аднак, пакуль яно існуе, можна сцвярджаць, што маюцца падставы для існавання Рэспублікі Беларусь і для права людзей называцца беларускім народам.

Адным з найбольш вядомых асяродкаў сучаснага беларускага мастацтва ў Мінску з'яўляецца так званая галерэя „Ў". Каб больш падрабязна пра яе даведацца, варта зазірнуць на сайт **http://ygallery.by**, што выдатна перадае сэнс і значэнне „Ў" у цяперашняй антыбеларускай культурнай рэчаіснасці.

Сайт „Ў" падзелены на традыцыйныя тры часткі. Пасярэдзіне — навінная паведамленні. Справа і злева выйсці на розныя праекты, што рэалізуюцца галерэяй „Ў", а таксама на розныя родныя па духу сайты. Выйсці на старонкі віртуальнага прадстаўніцтва галерэі месцяцца толькі ўверсе.

Згодна інфармацыі, пададзенай у падрубрыцы „Пра нас", „Ў" — гэта галерэя з атмасферай вольнай культуры, дзе кожны можа пазнаёміцца з актуальнымі, сучаснымі напрамкамі ў мастацтве, наведаць лекцыі вядомых мастацтвазнаўцаў, узяць удзел у майстар-класах.

„Адным з важных напрамкаў працы галерэі „Ў" з'яўляецца адукацыйная дзейнасць: арганізацыя і правядзенне семінараў, „круглых сталоў" і іншых культурных мерапрыемстваў у галіне мастацтвазнаўства, арт-мэнэджмэнту, куратарскай працы з удзелам як беларускіх, так і замежных спецыялістаў. Мэта гэтых адукацыйных мерапрыемстваў — акумуляцыя вакол галерэі не толькі мастакоў, але і куратараў, крытыкаў і аналітыкаў, стварэнне ўмоваў для фармавання крытыка-аналітычнага асяроддзя. Арганізуючы супольна з гэткімі аднамыслоўцамі выставы і культурныя акцыі, мы здолеем развіваць у краіне сучасныя стандарты прэзентацыі і ацэнкі актуальнага мастацтва, што будзе садзейнічаць папулярызацыі сучаснага і актуальнага мастацтва ў Беларусі", — распавядаюць аб сваіх мэтах і задачах сябры галерэі.

Дарэчы, пазнаёміцца з камандай „Ў" можна на аднайменнай старонцы. Цікава, што, згодна пададзенай інфармацыі, яна выключна жаночая і складаецца з чатырох прыгожых дзяўчат.

Любая галерэя гэта перш за ўсё набор карцін рук разнастайных альбо аднаго мастака. У галерэі „Ў" такіх мастакоў не адзін дзесятак, якія выстаўлялі там свае творы. Аб гэтым распавядаецца ў рубрыцы „Мастакі". У тэкстах творчых біяграфій маецца магчымасць выйсці на асабістыя сайты некаторых творцаў.

Для аматараў сучаснага беларускага мастацтва, пэўна, найбольш цікавай будзе рубрыка „Выставы". Яна падзяляецца на тры часткі „Зараз", „Будзе", „Было", сэнс якіх гаворыць сам за сябе. Праўда, пабачыць выстаўленыя творы там не ўдасца, затое віртуальнага наведвальніка чакае падрабязны расповед амаль пра кожную з выстаў.

Як любая паважаючая сябе галерэя, „Ў" таксама прапаноўвае не толькі паглядзець на мастацкія творы, але і набыць некаторыя з іх. Пра гэты бок дзейнасці галерэі „Ў" распавядаецца на старонцы „Паслугі", якая месціцца ў самым канцы выйсцяў на ўсе рубрыкі сайта.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

## Скарбы Беларусі

### Сцяг і знак

Пра наш бел-чырвона-белы сцяг за апошнія дваццаць гадоў напісана так шмат, што кожны нарыс на гэтую тэму рызыкуе стаць альбо другасным і кампіляцыйным, альбо проста нецікавым. Аднак, у кантэксце як агульнанацыянальных скарбаў, так і асабіста дарагіх рэчаў абмінуць гэты сімвал аніяк нельга. Проста здзіўляешся які шлях ведання і стаўлення да нацыянальнай сімволікі прайшлі мы, беларусы, за апошнія трыццаць гадоў. Яшчэ ў пачатку васьмідзесятых гадоў, у час сацыялістычнага „застою", мы нічога не ведалі пра нашы адвечныя колеры. Сапраўдны сцяг і герб „Пагоня" былі ў свядомасці толькі некаторых навукоўцаў ды старых змагароў за незалежнасць. Потым з надыходам перабудовы прыйшла і шырокая хваля асветніцтва датычна беларускай сімволікі, карані якой сягаюць у часы індаеўрапейскага адзінства. Бел-чырвона-белы сцяг перацярпеў яшчэ нападкі савецкіх ідэолагаў і „ветэранаў", якія вінавацілі носьбітаў сімвала ў фашызме і нацыяналізме, але гэта было сапраўды толькі шумавінне на магутнай, здавалася незваротнай, хвалі Адраджэння, праўды пра гістарычную геральдыку і вексілалогію.

І ўрэшце прыйшоў ён, сапраўдны Беларускі дзень — 19 верасня 1991 года Вярхоўны Савет Беларусі прыняў пастанову аб змене назвы Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі на Рэспубліку Беларусь. Дзяржаўным гербам была зацверджана „Пагоня", дзяржаўным сцягам — бела-чырвона-белы сцяг. Пад ім былі закладзены асноўныя падмуркі дзяржаўнасці, здабытыя першыя суверэнныя спартовыя заваёвы (згадаем хоць бы зімовую алімпіяду ў нарвежскім Лілехамеры), угрунтаваны сапраўдны патрыятызм. Мы можам ганарыцца тым фактам, што падпісанне белавежскіх пагадненняў у Віскулях пра канец існавання савецкай імперыі зла адбылося менавіта на нашай зямлі і пад нашым сцягам.

Ну а потым усё раптоўна павярнулася назад. Сцяг забаранілі, яго носьбітаў сталі караць вялізнымі штрафамі, арыштоўваць, збіваць. Ізноў, як сказаў паэт, „кроў лягла чырвонай паласой" праз рэчаіснасць.

Бел-чырвона-белы сцяг — гэта знак і шлях Хрыста, сімвал Хрыстовае пакуты за чалавецтва. На адной з вядомых карцін Альбрэхта Альтдорфера, датаванай шаснаццатым стагоддзем, уваскрэслы Збаўца трымае ў руцэ белую харугву з чырвонай паласой пасярэдзіне. Аналагічныя мастацкія палотны, але ўжо іншых майстроў пэндзля, давялося пабачыць мне ў Будапешце — у нацыянальным венгерскім музеі. Нездарма сімволіка такога колеравага спалучэння ёсць і на адзенні вышэйшага праваслаўнага святарства. Ніхто, праўда, з гэтых сучасных іерархаў не заступіўся аніводнага разу за тых, каго білі да крыві на пляцах Мінска толькі за тое, што яны трымалі такі ж трыкалор у руках. Але хай яны самі думаюць пра тое, каму і чаму яны служаць пад гэтымі святымі колерамі...

Нягледзячы на цемрашальства, якое пануе зараз у краіне, беларусы ўжо ведаюць сапраўдныя колеры сваіх святыняў. Наш выпакутаваны стагоддзямі сцяг не можа замяніць ніякі недарэчны „заход над балотам", ніякая псеўдасімволіка з каласамі ці сярпамі. Таму раз-пораз у розных гарадах і мясцовасцях узнікаюць свае „Міроны", якія вывешваюць гэты знак у розных высокіх месцах. Пакуль будзе жывы хоць адзін беларус, наш сцяг будзе лунаць і вызначаць сапраўдны шлях нацыі.

Мой асабісты сцяг пабываў ва ўгодках Грунвальда і на рымскім полі Тор Вегата, на магіле Ларысы Геніюш у Зэльве і ў вольналюбівай Свіслачы, на менскім стадыёне „Дынама" і каля гарадзенскай Калажы. Нават калі ён забаронены, ён заўсёды з намі.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# У Тапарках пасвяцілі святліцу

Тэкст і фота Уладзіміра СІДАРУКА

Рамонт вясковай святліцы ў Тапарках закончыўся ў кастрычніку мінулага года. Кошт інвестыцыі склаў суму 136 871,45 зл. 13 лістапада 2011 года прайшло ў ёй першае мерапрыемства — беларускі фэст з цыкла „І тут жывуць людзі". Афіцыйнае пасвячэнне святліцы адбылося 5 лютага гэтага года.

Мерапрыемства пачалося ў 12 гадзін з малебна, які ўзначалілі манахі манастыра св. Дзмітрыя Салунскага ў Саках. Прысутнічалі бурмістр Кляшчэляў Ірэна Негярэвіч, дырэктар Гарадскога цэнтра культуры „Гладышка" Лявон Алексяюк, радныя — з Залешанаў Галіна Герасі і з Палічнай Аліна Зазулінская, ды жыхары вёскі — пачаўшы ад дзетак, а скончыўшы на пажылых пенсіянерах. Усе сядзячыя месцы ў святліцы былі занятыя. Многія вымушаны былі заняць месца збоку. Пасля малебна, які доўжыўся некалькі мінут, цырымонію пасвячэння здзейсніў намеснік манастыра а. ігумен Цімафей, які, звяртаючыся да вернікаў, сказаў:

— Сёння молімся за тое, каб гэтая святліца стала месцам сустрэч і культурных мерапрыемстваў. Няхай гэты дом Божы служыць жыхарам вёскі многія гады. Не было б сённяшняй імпрэзы, каб не грашовая дапамога еўрасаюзных фондаў. Дзякуючы датацыі, а перш за ўсё амбітным намаганням пані бурмістр Ірэны Негярэвіч, адзначаем сённяшняе свята...

— Выказваю падзяку а. ігумену Цімафею і выконваючым паслугу пасвячэння святарам, — сказала ў сваю чаргу бурмістр Ірэна Негярэвіч. — Здача ў карыстанне святліцы гэта доказ таму, што жыхары Тапаркоў на гэта заслужылі. Вялікую духовую падтрымку атрымалі мы ў гэты час ад а.ігумена Цімафея. Гэта не толькі слуга Божы, але самааахвярны грамадскі дзеяч і адданы справе чалавек. Дзякуючы яго настойлівасці і хадайніцтву Міністэрства ўнутраных спраў і адміністрацыі ды Маршалкоўская ўправа прызначаюць значныя датацыі, дзякуючы якім манастыр развіваецца, а царква вяртае ранейшае свае хараство. Пажадайма затым а. ігумену Цімафею моцнага здароўя, духоўнай падтрымкі ў рэалізацыі амбітных планаў у карысць грамадскай супольнасці. Няхай жыве нам многія лета!

Аўдыторыя словы бурмістр прыняла з энтузіязмам. І тут жа па зале панеслася звонкая традыцыйная песня „Многае лета". Калі бурмістр выступала з прамовай, працаўнікі ГАК раздавалі ў зале „Інфармацыйны бюлетэнь Рады горада і гміны ў Кляшчэлях". Гэты даведнік мае службовы лакальнай грамадскасці з мэтай усебаковай інфармацыі ў адпаведнасці з прымаўкай „Нічога пра нас, без нас".

Калі завяршылася афіцыйная частка, ролю вядучага пераняў дырэктар Гарадскога цэнтра культуры „Гладышка" Лявон Алексяюк. У мастацкай частцы першым выступіў калектыў „Вішанька-Чарэшанька" з Сухавольцаў. Самадзейнікі пад кіраўніцтвам псаломшчыка Лукаша Барташука выканалі некалькі царкоўных песень: „Мы идём по дорожке", „Гори моя лампадка", „Настала на свете тревога" ды іншыя. Мне запалі ў сэрца строфы апошняй песні:

*Храним свою веру святу православну,*
*Бо в ней ты спасение найдёшь*
*До церкви спешимо, друг друга любимо,*
*Не знаем ли день проживём.*

Набожны рэпертуар калектыву з Сухавольцаў не быў выпадковым. У сакавіку мінулага года ўдзельніцы калектыву Антаніне Негярэвіч памерла дачка. Два месяцы пазней памерла маці. Васьмідзесяцігадовая бабулька Антаніна дагэтуль перажывае гора. На працягу года носіць жалобу. Пагадзілася выступіць у Тапарках адно з набожным рэпертуарам. Аўдыторыя са зразуменнем успрыняла выступленне самадзейнікаў. У знак прызнання ўзнагародзіла іх гарачымі апладысментамі.

Трыо з Дабрывады ў складзе Ніна Яўдасюк, Валянціна Клімовіч і Барбара Якімюк запрэзентавалі ў сваю чаргу даўнейшыя песні: „Ой, мароз, мароз", „Світіт місяць світіт ясный", „Ой ты, Галю"... Апошняй выступіла „Каліна" з Дашоў у складзе Софія Кердалевіч, Марыя Рошчанка, Ніна Міцэвіч і Еўдакія Маркевіч. Дашоўскія жанчыны, як і раней дабрывадскія пявунні, выканалі мясцовыя фальклорныя песні: „Ой там у полі, полі", „Шумят вэрбы", „І сюды гора, і туды гора". Варта адзначыць, што „Каліна" з Дашоў у мінулым годзе стала лаўрэатам II узнагароды фестывалю „Беларуская песня" ў Беластоку, ды сёлета таксама збіраецца ўдзельнічаць у конкурсе. Дабрывадскія і дашоўскія самадзейніцы выступалі перад публікай наперамен. За другім разам трыо з Дабрывады запрэзентавала вясельныя песні, якія спяваліся у час выпраўляння маладой да шлюбу і вяртання з вянчання. Шмат весялосці ў зале выклікаў напеў „Ашукалі мы папа...". Нават на тварах манахаў з'явілася вясёлая ўсмешка. На заканчэнне дашоўскія самадзейніцы прапанавалі аб'яднацца ў адну групу ды пачаць супольнае спяванне. Ідэя спадабалася і ў зале прагучэў шматлюдны спеў: „За туманом нічого не видно", „Ой у полі, на грудочку". На развітанне, быццам гімн, прагучалі словы народнай песні:

*Дзе бы ты не пасяліўся,*
*Дзе б не звіў сабе гнязло,*
*Помні, каб ты не забыўся,*
*Дзе калісь быў малышом.*
*Не забудзь сваёй хаты,*
*Дзе жылі бацька й маці,*
*Дзе ў калысцы калыхалі*
*І спявалі бай-люлі.*

Мастацкая частка закончылася. Затым арганізатары запрасілі самадзейнікаў і запрошаных гасцей на пачастунак. Знайшліся і музыканты. Імпрэза ў Тапарках завяршылася супольнай гулянкай. Варта было там пабываць!

Запрашаюць на прэзентацыю кнігі
«Марылька»

# Адгаданка

1. інструмент у выглядзе кручка, якім можна адамкнуць замок, 2. расійскі губернскі горад на Цне, 3. сплаў жалеза з вугляродам, 4. калгасніца з надоямі, 5. раённы цэнтр у Мінскай вобласці на Гайне, 6. сядзіць пад венікам, 7. горад у Аршанскім раёне, 8. вайсковае паліто, 9. жыхар паўночнай Іспаніі пад берэтам, 10. вялікая венгерская рака, 11. вялікая чэшская рака.

| | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | | | 2 | | | | 3 | 4 | | |
| | | | | | | | | | | | |
| | | | 5 | | | | | | 6 | 7 | |
| | | | | 8 | 9 | | | | 10 | | |
| | | | | | | | 11 | | | | |

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — персідская пагаворка. **(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 3 нумара**

Герань, зяць, мох, поп, Сана.

Рашэнне: **Агонь з порахам не спяць**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Казіміру Радошку** са Свебадзіцаў і **Аляксандру Дабчынскаму** з Беластока.

# 19.02 — 25.02

**(22.03.—20.04.)** 21-25.02. не азірайся за нікім, толькі дзейнічай! Добры тыдзень для новых пачаткаў і працягу спраў. Вочы баяцца ды рукі дзейнічаюць! Хопіць табе сілы пераадолець любыя перашкоды і перамагчы кожную дарогу. Добры час да спазнання новага, вывучэння навук, самаўдасканалення.

**(21.04.—21.05.)** Добры час для кар'ернага росту, новых задум і фінансавага становішча. Толькі не перасільвайся, расходуй свае сілы ў меру. Можа прыйдзецца ісці акружной дарогай, выгладжваючы сітуацыю, шукаючы альтэрнатыўных метадаў. Добры час на пакупкі рэчаў для быту. Звярні ўвагу на сваё здароўе, працэдуры лепш удаудцца пры канцы тыдня.

**(22.05.—22.06.)** Магчымае рознагалоссе ў сям'і і з асобамі другога полу. Не вельмі добры час для знаёмстваў і новых пачаткаў. Сілы хопіць, ды накіраваць яе можаш не ў тое рэчышча. 21-25.02. твае амбіцыі ўздымуцца на неверагодны ўзровень, што будзе цяжка задаволіць. Пастарайся знайсці мірнае прымяненне свае сілы і пачуццяў.

**(23.06.—23.07.)** Да 20.02. маеш даскаНалыя лады на працы. З 21.02. удадуцца падарожжы, кантакты з замежжам. У апошнюю дэкаду дакажы, як табе залежыць на партнёры. Можаш мець цяжкасці выказаць свае думкі і данесці іх іншым. Пад канец тыдня могуць цябе ўцягнуць у вір прыкрых здарэнняў; не афармляй тады важных спраў.

**(24.07. — 23.08.)** Да 20.02. добрыя нагоды, набыткі, практычныя змены. Апошняя дэкада лютага прынясе вялікія змены і новыя выклікі. З 23.02. (да 27.02.) будзеш папулярны, а твае задумы будуць адобраны. Ды пад канец месяца можаш праваронніць важную сітуацыю і не прыкмеціш, што хосць цябе падстаўляе; можаш шмат страціць, дык лепш важнае рашэнне адтэрмінуй.

**(24.08.—23.09.)** Ненайлепшы час на новыя знаёмствы. Цяпер непатрэбныя спешка і мітусня. Задумы рэалізуй, не разлічваючы на іншых. Лепш не пачынай сумесных праектаў. 21-25.02. — нервовая сітуацыя на працы, спрэчкі, а злучоючыся страціш толькі час і энергію.

**(24.09. — 23.10.)** Трэба будзе вывучаць новы напрамак дзейнасці, набірацца чужой мудрасці і ведаў; у будучыні з гэтага можаш прайсці экзамен. Магчымыя актыўныя перамяшчэнні, пераезды і кантакты. Пад канец тыдня трэба будзе табе адрэкамендавацца з як найлепшага боку; будуць закладзены асновы для твайго далейшага фінансавага развіцця. Кіруйся ва ўсім інфармацыяй, якую атрымаеш на пачатку тыдня.

**(24.10.—22.11.)** Да 20.02. будзеш вельмі паспяховы. Толькі ў інтэлектуальнай сферы гэты тыдзень палічыш удачлівым. Можаш займацца творчасцю, складаннем планаў, падвядзеннем разлікаў. Ажыццяўляць задуманае яшчэ рана, або задбаць будуць невялікія. Добры час для асоб займаючыхся сродкамі інфармацыі, ды непасрэдны кантакт з людзьмі трэба будзе звесці да мінімуму, бо магчымыя спрэчкі і рознагалоссе.

**(23.11.—22.12.)** З 23.02. (да 27.02.) зрэалізуеш свае планы, адменіш свет вакол сябе, сустрэнешся з зычлівасцю атачэння; добры момант на змену свайго грамадзянскага стану. Ды 22-26.02. абы-якая драбяза можа цябе надоўга вывесці з раўнавагі.

**(23.12.—20.01.)** Ты не павінен наракаць, енчыць, а пазмагацца з жыццём. Шанцуе нагоды для змен. Дбай аб сваё здароўе (можаш пайсці да іншага спецыяліста). Магчымыя перажыванні, рознагалоссе і расстанні, якія акажуцца не такімі страшнымі і адмоўнымі. Пакінь тое, што стала цяжарам, ідзі ўперад!

**(21.01.—19.02.)** У апошняй дэкадзе лютага можа табе не хапаць сілы; больш адпачывай, займіся ўнутраным светам, пабудзь адзін (у апошнім свеце не будзе ў гэты час адбывацца нічога цікавага і вельмі карыснага для цябе). Адказы знойдзеш у сабе!

**(20.02.—21.03.)** Тыдзень нэкпскі, ды не старайся праз сілу быць актыўным. Аддай час сабе і сваім марам. Не напінайся і не марнуй сілы і часу. Не вер плёткам і недакладным інфармацыям. У апошняй дэкадзе лютага шмат што будзе псавацца дома, ды і майстры трапяцца таксама ненайлепшыя.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.iig.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.iig.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
Termin przyjmowania wpłat do 5-go dnia każdego miesiąca poprzedzającego okres rozpoczęcia prenumeraty.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „RUCH" i „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Cena prenumeraty kwartalnej: I kwartał — 32,5 zł., II kwartał — 32,5 zł., III kwartał — 35,0 zł., IV kwartał — 32,5 zł., rocznej — 132,5 zł.
**Prenumerata z wysyłką za granicę**
Wpłaty przyjmuje „RUCH" S.A. ul. Annopol 17a, 03-236 Warszawa; telefony: +48(22) 69-36-775, +48(22) 69-36-782, +48(22) 69-36-718; www.ruch.pol.pl
**Prenumerata w redakcji**
Planowana ilość numerów „Niwy" w 2012 roku — 53.
**Przesyłka zwykła:** Cena 1 egz. wraz z wysyłką w kraju wynosi 4,2 zł.

**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład**: 1 300 egz.

**Ад гайнаўска-кляшчэлеўскай асфальтоўкі ў Ягадніку недалёка, менш кіламетра. Першыя ягадніцкія сядзібы з боку Арэшкава пазначаны абярэжнымі крыжамі. Сама вёска выглядае даволі прыстойна. Шмат там мураванак, але ёсць і прыгожа аздобленыя драўляныя хаты. У мадэрнай звонку вясковай святліцы акурат адбываецца нейкае абучэнне мясцовых сялян, на якое запрашае і мяне яго арганізатарка з Гайнаўкі, што акурат выйшла навонкі падыхаць марозным паветрам; запрашэнне лічу праявай ветлівасці, дзякую і падаюся сваёй дарогай. Пункт прыёму малака, на якім шыльда гайнаўскай малачарні, паказвае, што ён яшчэ запатрабаваны, што мясцовыя людзі яшчэ трымаюцца традыцыйнай мадэлі паставак малака, што яшчэ не ўсе тут вялікатаварнымі фермерамі. Крама-майсенеўка закрытая дзвюма салíднымі штабамі, аднак ветраецца цераз выбітую вялікую шыбу.**



Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

# За Гайнаўкай

За вёскай, у напрамку Дубіч-Асочных, на расхадных дарогах у Стары Корнін і ў Пасечнікі-Вялікія, у жалезнай агароджы, чатыры крыжы — два цэментныя і два драўляныя. На цэментным надпіс — вызначэнне месца мясцовага верніка ў рэлігійным сусвеце: „Господи, я с Тобою в пути, Матерь Божа у ногах, двое ангелов по боках, а я в Твоих руках"; яна вельмі дарэчы на расхадных дарогах, быццам і мне, што „в пути"... А далей ужо відаць той цывілізацыйны працэс, што адбываецца ў нашым старонні апошнімі дзесяцігоддзямі — меншыя і большыя лапікі маладога лесу: бярозы, сосны, елкі... Шматлікі наш народ кінуў поле і падаўся за гарадскім хлебам.

Паварочваю ў бок Барка. У полі перад вёскай два межавыя крыжы: цэментны і драўляны; апошні з іх паставілі жыхары Махнатага ў 2001 годзе. Меркаваў я, што тут мяжа палёў Махнатага і Барка, пазней, аднак, даведаўся, што там мяжа махнацка-ягадніцкая, а баркоўскія палі за вёскай з боку Хітрай і Гайнаўкі.

Перад самім Барком малады сасновы барок, а між ім і дарогай чысты ўчастак з двума крыжамі, адзін з іх стаіць, а другі спачыў пад першым. На краю палетка старая хвойка, а зараз за ёй і вывадны цэментны крыж у драўлянай агароджы. Недалёка адзін з вяскоўцаў акурат зачыняў браму на панадворак і яго я спытаў пра той участак.

— Гэта халерычныя могілкі, — сказаў ён мне. І дадаў, што там тры крыжы, пару гадоў таму іх былі паставілі па ініцыятыве бацюшкі, аднак нехта там пасвіць кароў, якія і выкулілі два крыжы. Той трэці крыж, мабыць, лёг гарызантальна і яго ад майго зроку прыкрыў снег. Спытаў я яшчэ майго інфарматара пра сумны будынак святліцы, ці ён нейкім чынам служыць мясцовым, аднак даведаўся, што няма там печаў.

— А ў больш цёплую пару года?

— Ах! — адмахнуўся ён рукою.

Трыццаць пяць гадоў таму Мікола Гайдук быў пісаў у „Ніве" (№ 11 ад 13 сакавіка 1977 года) пра Барок: „Не спадзявайцеся там смалістага бору або нават невялічкага барка ці хоць бы некалькі рослых сосен. Гэтая вёсачка з дзвацаццю дзвюма гаспадаркамі прысела каля луга, а вакол, як вока сцягне, прасціраюцца палі, папераразваныя дзе-нідзе лужкамі ды далінкамі. Барок знаходзіцца ў якіх 7-8 кіламетрах на захад ад Гайнаўкі. У назве захаваўся след каланізацыі колішняй Бельскай пушчы, а пра яго ўзнікненне можна сказаць з упэўненасцю толькі тое, што ў „Люстрацыях ваяводства Падляшскага" ад 1570 і 1576 гадоў пра Барок яшчэ нічога не знаходзім, але ў дакуменце з 1616 года ён ужо ўпамінаецца. Падобна як суседнія з ім мясцовасці, між іншым, Дубічы-Асочныя, Пасечнікі, Ягаднікі, была гэта маёмасць *гаспадарская*, г.зн. вялікіх князёў літоўскіх і каралёў польскіх і падлягала тадышняму Бельскаму лясніцтву, а дакладней — яго фальварку Ляды. Праўдападобна, у Барку „сядзелі" *асочнікі*, *стральцы* ды *лазебнікі*. Абавязкам асочнікаў было за зямлю, з якой яны жылі, сцерагчы каралеўскую пушчу ды абслугоўваць караля і яго світу ў час паляванняў, стральцоў жа, апрача абавязковага ўдзелу ў каралеўскіх паляваннях, яшчэ значна больш цяжкая і небяспечная павіннасць — хадзіць у ваенныя паходы. Пасечнікі, або інакш бортнікі, бралі ў арэнду лазівы, г.зн. пчаліныя борці ў пушчы і за гэта плацілі даніну мёдам і воскам у лясніцтва".



Дзверы ў Чыжыках

Цяпер краявід вакол Барка змяніўся, ды і ў Гайдукоў час ён не выглядаў дакладна так, як ён апісаў, бо ж з Барка добра відаць сцяну Белавежскай пушчы. За вёскай, з боку Пасечнікаў-Вялікіх, відаць глыбока ўжо ўкапаны ў зямлю драўляны крыж. Дзве жанчыны, якія вярталіся ад аўтакрамы, паінфармавалі мяне, што там калісь былі пасечніцкія сядзібы, якія амаль упрытык межавалі з Барком, аднак пазней іх насельнікі перабраліся далей, у вёску, мабыць у больш сухое месца.



Помнічак пры гайнаўска-бельскай шашы

Дарога з Барка ў Хітрую пралягла між заўважанымі Міколам Гайдуком лужкамі і далінкамі. Сама Хітрая захавала, так як і Барок, традыцыйны выгляд, традыцыйную забудову. З хітранскай вуліцы звочыў я блакітнасценную будынінку сярод палёў у напрамку Дубіч-Асочных. Мужчына, якога я спытаў пра аб'ект, даволі фармальна адказаў мне, што гэта капліца, пастаўленая нядаўна жыхарамі суседняй вёскі...

У канцы Хітрай, з боку былой бельска-белавежскай чыгуначнай лініі, красуецца трохпавярховы мураваны будынак без шыльды. Ад жыхара недалёкага панадворка даведаўся я, што гэта будынак вясковага клуба, збудаванага ў час ягонага дзяцінства, значыць у 1980-х гадах. Мелі тады таксама пабудаваць зараз за вёскай, на працякаючай там рачулцы вадаём...

Планы былі амбітныя. У трохпавярховым будынку клуба свежа адноўлены толькі першы паверх, два вышэйшыя быццам незапатрабаваныя. Мясцовая ўлада стараецца стварыць умовы сваймy насельніцтву для нейкай грамадскай актывізацыі, але па-рознаму гэта атрымліваецца. Што зараз адбываецца ў хітранскім клубе я не даведаўся, бо мой інфарматар спяшаўся за сваімі справамі. Нешта там, мабыць, адбываецца, бо знак вясковай непаседлівасці перад будынкам клуба стаіць. Гэта снегавы балван, выраб традыцыйнага юнацкага рукадзелля ў зручнае для гэтай дзейнасці надвор'е...

Падаўся я ў бок Дубіч-Асочных па новай асфальтоўцы, якая яшчэ нават не пазначаная на мапах. Край яе і згаданая ўжо раней блакітнасценная капліца. Яна была пабудавана ў 2006 годзе ў памяць жыхароў вёскі, памерлых ад эпідэміі ў 1832 годзе — 180 гадоў таму. Побач і крыж на цэментным пастаменце, узведзены ў 1995 годзе, таксама ў памяць аднавяскоўцаў. Эпідэмічныя дубіцкія могілкі размешчаны на круглым палетку, які крыху, мо паўметра, вышэй суседняй сенажаці; на яго краях некалькі невялікіх валуноў. У самой вёсцы пустуючы будынак крамы, на вясковым загуменні запушчаны будынак пункту прыёму малака; былая калгасная абора здаецца быць загаспадараванай, але ёсць і праявы новага бізнесу. Не ўдалося мне нікога спаткаць, каб распытацца пра дэталі...

Каля скрыжавання гайнаўска-бельскай шашы з дарогай з Дубіч-Асочных у Новае Беразова, на месцы, дзе не надта даўно загінуў адзін з гайнаўскіх святароў, адмысловы помнічак у выглядзе мураванай стэлы, метровай вышыні, завершаны мініяцюрнай царкоўкай.

Новае Беразова мае багата помнікаў даўніны, у іх ліку і дзве царквы: драўляная з XVIII стагоддзя і мураваная „мураўёўка" з 1870-х гадоў. Ёсць таксама і мураваная капліца пры расхадных дарогах у Койлы і Чыжыкі з 1867 года. І крыху малодшы крыж у цэнтры вёскі з надпісам: „Въ ознаменованіе священнаго коронованія ихъ императорскихъ величествъ Николая Александровича и супруги его ея императорскаго величества Александры Феодоровны 14 мая 1896 года". І будынак былой школы, з зацягнутымі белай фанерай, быццам бяльмом, вокнамі. І помнік Юзафу Пілсудскаму перад школай, які не ўратаваў яе перад дэмаграфічным спадам. І даўнінная хата Чабаноў. І новая шыкоўная плябанія побач старой. Бо плябанія гэта свайго роду акенца ў сакрум, у якое трэба глядзець з надзеяй. З надзеяй, верай і... аптымізмам.

ISSN 0546-1960